# КАРОТКІ ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ПАЛІТАЛАГІЧНЫХ ТЭРМІНАЎ

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт
імя Максіма Танка

# КАРОТКІ ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ПАЛІТАЛАГІЧНЫХ ТЭРМІНАЎ

Мінск 1997

ББК 66.01
К 258

Складальнікі: А.Я.Бенеш, Э.Р.Іофэ, С.І.Сіманоускі,
Г.І.Сцяпанау

Рэцэнзент - П.В.Дзядзюля, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт

Дадзца тлумачэнні асноуных паліталагічных тэрмінау, якія сустракаюцца пры вывучэнні палітaлагічных дысцыплін. Прызначаны выкладчыкам і студэнтам.

ISBN 985-435-016-9

© А.Я.Бенеш, Э.Р.Іофэ, С.І.Сімаyоускі, Г.І.Сцяпанау 1997.

АБСАЛЮТЫЗМ (лац. absolutus - безумоўны, неабмежаваны) - форма дзяржаўнага кіравання, пры якой палітычная ўлада знаходзіцца ў руках адной асобы - манарха. А.адрозніваецца надзвычай высокай ступенню цэнтралізацыі дзяржаўнай улады.

Пры А.адсутнічае ўсякі ўдзел народа ў заканадаўстве і ў кантролі за кіраваннем.

Росквіт А.у краінах Зах.Еўропы ў ХУП-ХУШ ст. У Расіі А.існаваў у ХУШ - пач. XX ст. Ліквідаваны ў большасці краін буржуазнымі рэвалюцыямі.

АБСЕНТЭІЗМ (лац. absens - адсутнічаючы) ухіленне выбаршчыкаў ад удзелу ў галасаванні на выбарах у прадстаўнічыя органы ўлады, форма апалітычнасці. Факт А.ацэньваецца неадназначна. З аднаго боку, наяўнасць А.з'яўляецца прызнакам свабоды чалавека ў грамадстве: чалавек мае поўнае права выбіраць варыянт паводзін. З другога боку, А.сведчыць аб тым, што частка грамадства індыферэнтна да вынікаў выбараў, таму што не бачыць сувязі праграм кандыдатаў з перспектывамі свайго жыцця і ўспрымае выбарчыя кампаніі толькі як вялікія гульні, якія перыядычна паўтараюцца.

А., як масавая з'ява можа пагражаць легітымнасці прадстаўнічых органаў, аўтарытэту выбраных. Пагэтаму А. - падстава для крытычнай ацэнкі палітычнай практыкі. Рост А.можа разглядацца і як сведчанне палітычнага крызісу, рэакцыя на няздольнасць палітыкаў прапаноўваць альтэрнатывы.

АГРЭСІЯ (лац. aggressio - нападзенне) - прамое ці ўскоснае прымяненне ўзброенай сілы адной дзяржавай супраць палітычнай незалежнасці ці тэрытарыяльнай цэласнасці другой. Гэта нападзенне характарызуецца ініцыятывай, намерам ці агрэсіўным намерам. Найбольш небяспечная форма А. - узброенае нападзенне. А.можа быць таксама эканамічнай, псіхалагічнай, ідэалагічнай і г.д. Дзеянні дзяржавы, стаўшай ахвярай А.і адказваючай у парадку самаабароны ваеннымі дзеяннямі, у тым ліку і наступальнымі, не з'яўляюцца агрэсіўнымі. Яны законныя і адказваюць нормам міжнароднага права. А. як форма здзяйснення знешняй палітыкі дзяржавы інтарэсам міру і бяспекі народаў, перашкаджае прагрэсіўнаму развіццю грамадства, цывілізацыі.

АДНОСІНЫ МІЖНАРОДНЫЯ - гэта ўсе магчымыя ўзаемаадносіны дзяржаў і іншых удзельнікаў міжнароднага жыцця, любая іх актыўнасць, якая выходзіць за дзяржаўныя межы. А.м.выступаюць як сукупнасць (сістэма) эканамічных, палітычных, ідэалагічных, прававых, дыпла-

матычных, ваенных сувязей і ўзаемаадносін паміж народамі, дзяржавамі і сістэмамі дзяржаў, паміж асноўнымі сацыяльнымі, эканамічнымі і палітычнымі сіламі і арганізацыямі, якія дзейнічаюць на міжнароднай арэне.

АДНОСІНЫ ПАЛІТЫЧНЫЯ - узаемадзеянне суб'ектаў палітыкі і ўлады, пры якім адбываецца іх аб'яднанне або раздзяленне, перадача ідэй, поглядаў, абмен рэсурсамі, перадача валявых пабуджэнняў ад аднаго суб'екта другому.

А.п.складваюцца паміж асобнымі суб'ектамі палітыкі, г.зн.тымі, хто непасрэдна ўдзельнічае ў палітычным жыцці грамадства і, у той ці іншай ступені, уплывае на яе.

А.П. рэгулююцца спецыяльнымі нормамі - прававымі і палітычнымі, дзейнічае спецыяльны механізм структуры, роляў, функцый, груп.

АЛІГАРХІЯ (грэч.*oligarchia*- нямногі, немнатлікі) - улада нямногіх у дзяржаве або ў свеце фінансаў.

А. - першапачаткова ўлада невялікай групы багачоў. Традыцыйна ва ўсе часы яна была прадметам крытыкі. Па Платону, А.дрэнна тым, што вышэй за ўсё ставяцца грошы, невысока цэніцца дабрачыннасць, мудрасць, храбрасць: грамадства распадаецца на варожыя сілы: багатых і бедных, расце лік жабракоў, множыцца іх сіла. Нянавісць да алігархіі пераходзіць у перамогу беднякоў.

У цяперашні час пад алігархіяй разумеецца ўлада нямногіх, сама правячая група або эліта, якая ўладарыць.

АЛЬТЭРНАТЫВА (лац.*alter* - адзін з двух) - кожная з узаемавыключальных магчымасцей.

АНАРХІЗМ (грэч.*anarchia*- безуладдзе) - палітычная плынь, якая абвяшчае сваёй мэтай вызваленне асобы ад гвалту, якой бы там ні было ўлады - палітычнай, эканамічнай, духоўнай і замену любых форм улады свабоднай і добраахвотнай асацыяцыяй грамадзян.

Сутнасць А.заключаецца ў адмаўленні (знішчэнні) дзяржавы як сістэмы ўлады, якая заснавана на прымусе і стаіць на варце грамадскай няроўнасці. Анархісты заклікаюць да такога грамадства, якое не падаўляе асобу, стварае ёй умовы своеасаблівага, не абумоўленага ніякімі рамкамі развіцця. Для А.характэрны матыў неантаганістычнай супольнасці, якая функцыянуе ва ўмовах бесканфліктных адносін. Погляды анархістаў звернуты да грамадства, у якім асабістая свабода максімальная, матэрыяльныя каштоўнасці справядліва

разнеркаваны, агульныя задачы раааюцца шляхам добраахвотнай згоды. Большасць іх адпаўляе прымяненне насілля, паколькі, на думку прыхільнікаў гэтай плыні, яно не ўласціва прыродзе чалавека.

АПАЗІЦЫЯ (лац. *oppositio* - супрацьпастаўленні) - арганізаваная група людзей або партый, якая супрацьстаіць па ацэнках, праграме, палітыцы, думцы большасці або пануючай большасці. Асноўнымі відамі А. з'яўляюцца парламенцкая і ўнутрыпартыйная. Парламенцкая А. ўтвараецца з дэпутатаў парламента або парламенцкай фракцыі якой-небудзь парт.і, якія не падтрымліваюць урад, крытыкуюць яго дзейнасць, карыстаюцца выпадкам паставіць пытанне аб даверы ўраду. Унутрыпартыйная А. заўсёды сведчыць аб крызісе ў партыі і дзейнічае нядоўга. Справа канчаецца расколам, выключэннем апазіцыянераў з партыі або знаходжаннем кампрамісу. Арганізаваную крытыку ўрада ў сродках масавай інфармацыі, арганізацыю акцый пратэсту - мітынгі, дэманстрацыі, пікеты - называюць пазапарламенцкай апазіцыяй.

АПАТРЫДЫЗМ (грэч. *apatris* - той, хто не мае радзімы) - адсутнасць прыналежнасці да дзяржавы. Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека ААН (1948г.) характарызуе А. як ненармальную з'яву. Праяўленне А. утварае прадпасылкі міжнародных канфліктаў або ўнутраных беспарадкаў.

АРГАНІЗАЦЫІ ГРАМАДСКІЯ - гэта няўрадавыя, недзяржаўныя інстытуты, якія ствараюцца для развязання сацыяльных праблем і рэалізацыі грамадскіх інтарэсаў. Іх галоўнае адрозненне ад грамадскіх рухаў заключаецца ў тым, што яны маюць больш ці менш разгалінаваны апарат, выразную структуру, статут, пастаяннае членства, цэнтралізаванае кіраўніцтва. У сілу гэтага А.г. больш устойлівыя, г.зн. могуць існаваць падоўжаны час, распарадкацца вялікімі магчымасцямі для рашэння грамадскіх праблем. Традыцыйныя А.г.: прафсаюзныя, жаночыя, маладзёжныя і г.д. Яны ствараліся для выражэння і абароны інтарэсаў, у першым выпадку - працаўнікоў, у другім - моладзі і г.д.

А.г. і рухі вельмі блізкія па сваёй сутнасці. Іх мэты, задачы, формы дзеянняў могуць супадаць. Дакладна і самі А.г. узнікаюць вельмі часта на базе грамадскіх рухаў.

АРЫСТАКРАТЫЯ - форма дзяржаўнага ўладкавання, пры якой кіраўніцтва дзяржавай ажыццяўляецца невялікай групай, як правіла, вярхамі вышэйшай знаці.

АРТЫКУЛЯЦЫЯ ІНТАРЭСАЎ - працэс, у ходзе якога індывіды і

групы фармулююць свае патрабаванні, суадносныя іх рэальным ці нерэальным інтарэсам, і пераносяць гэтыя патрабаванні ў цэнтр палітычнай барацьбы ці ў сферу прыняцця палітычных рашэнняў.

А.і.залежыць ад груп інтарэсаў.

Г.Алмонд і Г.Паўэл адзначалі шэраг рыс, якія характарызуюць магчымы стыль А.і.

1. Патрабаванні могуць быць яўнымі (напрыклад, дакладная фармулёўка патрабавання кіраўніцтвам прафсаюзаў або арганізацыяй прадпрымальнікаў) або латэнтнымі (утоенымі), калі праяўляецца нейкае незадавальненне ў паводзінах ці запавольванні працы.

2. Патрабаванні могуць быць у выглядзе нявызначанай дэкларацыі - "Мы хочам змен", якія ўказваюць на незадаволенасць, але не на спосабы яе пераадолення; ці ў выглядзе канкрэтнай просьбы - павысіць стыпендыю на 15%.

3. Могуць быць агульнымі (напрыклад, цэны павінны быць замарожаны ці зарплата павялічана), або дэтальнымі (стаўка падатку на дабавачную вартасць, якім абкладаецца тавар, павінна быць паніжана).

4. А.і.можа быць інструментальнай, інакш кажучы, у форме пагаднення (н-д, пагадненне паміж кіраўніцтвам і прафсаюзам аб спыненні стачкі ў выпадку задавальнення дакументальна зафіксаваных патрабаванняў) ці афектыўнай, што азначае праяўленне незадаволенасці, лютасці, расчаравання на адчувальным узроўні.

АЎТАРЫТЭТ ПАЛІТЫЧНЫ - прызнаны ўплыў асобы, партыі або другой якой-небудзь арганізацыі на палітычную ўладу. А.п. з'яўляецца абавязковай умовай палітычнага лідэрства. Галоўнымі відамі А.п. з'яўляюцца: традыцыйны, заснаваны на звычаях, традыцыі падпарадкоўвацца, паважаць пэўную асобу; канстытуцыйны, набыты праз павагу людзей да закону, волі большасці; харызматычны, звязаны з асабістай прыхільнасцю лідэра, верай у яго выключныя якасці.

АХЛАКРАТЫЯ (грэч.ochlos- толпа, чернь +kratos- власть) - улада натоўпу, вуліцы. Прымітыўная антыдзяржаўная форма ўладарання. А.ўласціва непасрэднае волевыяўленне без звяртання да якіх-небудзь палітычных інстытутаў. Аднак у адрозненне ад суняшчальных з дзяржаўнасцю форм самакіравання А.супрацьстаіць дзяржаўным інстытутам, праву, падмяняе прынцып грамадзянскай свабоды прынцыпам вольнасці, самавольства.

БАЛАЦІРОЎКА (франц. balloter - выбіраць) - вырашэнне пытання

ці выбранне членаў якога-небудзь органа, камісіі і гэтак далей падачай галасоў.

БАЙКОТ (англ.baycott) - 1) поўная ці частковая адмова ад падтрымкі адносін з асобамі, арганізацыямі, дзяржавамі з мэтай прымусіць апошніх задаволіць тыя ці іншыя эканамічныя або палітычныя патрабаванні; 2) адмова ад выканання функцый, ад карыстання якімі-небудзь правамі чыімі-небудзь паслугамі з тымі ж мэтамі; 3) спыненне адносін з пэўнай асобай у знак пратэсту.

БАНАПАРТЫЗМ - гістарычна можна вызначаць як форму ваенна-палітычнай дыктатуры, якая праводзіць палітыку лавіравання паміж класамі. У больш вузкім сэнсе - палітычнае цячэнне, арыентаванне на дынастыю Банапартаў, якая спынілася ў канцы XIX ст.

Б.мае тры фундаментальныя прыэнакі: 1) кантроль над дзяржаўнай машынай (або імкненне ўстанавіць яго), 2) апора на армію (або выкарыстанне яе ў якасці палітычнай сілы), 3) дэмагагічныя заявы аб хуткім і лёгкім вырашэнні сацыяльных праблем (або запэўненні ў клопатах аб "найбольш" пакрыўджаных"). Гэта дазваляе характарызаваць Б.як палітыку, пачатую Напалеонам 1 і поўнасцю сфарміраваную Напалеонам Ш, палітыку аўтарытарнага вырашэння рэвалюцыйнай сітуацыі.

БІЯПАЛІТЫКА - галіна палітычнай навукі, якая выкарыстоўвае біялагічныя метады і даныя біялогіі для вывучэння палітычных паводзін чалавека. Выкарыстанне ў палітычных даследаваннях даных і вынікаў Б.дазваляе глыбей разумець ролю фізіялагічных уласцівасцей чалавека) пол, тэмперамент, здароўе і інш.) пры выкананні ім палітычных функцый.

БЮРАКРАТЫЯ (франц.bureau- бюро, канцылярыя + грэч.kratos- - улада, панаванне) -літаральна - панаванне канцылярыі. Адсюль і тэрмін "бюракрат", г.зн. служачы сярэдніх звенняў дзяржаўнага апарата, чыноўнік. Існаванне бюракратыі - непазбежнасць і неабходнасць функцыянавання палітыкі і ўлады.

Б. - спецыфічная форма сацыяльных арганізацый у грамадстве (палітычных, эканамічных, ідэалагічных і інш.), сутнасць якой заключаецца ў адрыве цэнтраў выканаўчай улады ад волі і рашэнняў большасці членаў гэтай арганізацыі, у вяршэнстве формы над зместам дзейнасці, у падпарадкаванні правіл і задач функцыянавання арганізацыі мэтам захавання і ўмацавання.

Тэрмін "бюракратыя" ўжываецца ў трох значэннях: 1) сацыяльны

арганізм, вынік сацыяльных антаганізмаў, супярэчнасцей, канфліктаў і матэрыялізацыя як арганізацыйна-кіраўніцкага, так і палітычнага адчування, 2) сістэма кіравання, якая здзяйсняецца з дапамогай апарата ўлады, аддзеленага ад грамадства, якое стаіць над ім, валодаючага спецыфічнымі функцыямі і прывілеямі, 3) слой людзей, звязаных з гэтай сістэмай.

БЛОК ПАЛІТЫЧНЫ - аб'яднанне дзяржаў, палітычных партый, грамадска-палітычных арганізацый, якія дасягаюць агульных мэт.

Упершыню гэты тэрмін з'явіўся ў Францыі ў пачатку XX ст. і азначаў аб'яднанне партый, падтрымліваючых кіраўніцтва супраць агульнага палітычнага ворага - манархістаў, нацыяналістаў і клерыкалаў.

У парламенце партыйныя фракцыі блакіруюцца для п: :няцця ці адхілення законапраектаў. У перыяд выбарчых кампаній блізкія па палітычных пазіцыях партыі заключаюць пагадненне аб сумеснай дзейнасці (н-д, сацыял-дэмакраты і сацыял-рэвалюцыянеры ў перадрэвалюцыйнай Расіі), утвараючы выбарчы блок, днаўляюцца аб падзеле дэпутацкіх і ўрадавых месц, а таксама аб формах узаемадзеяння. Формы ўзаемадзеяння могуць быць надзвычай разнастайнымі - сумесныя звароты да насельніцтва, выпрацоўка адзінай-палітычнай платформы, мітынгі, дэманстрацыі.

Міждзяржаўныя блокі ўтвараюцца з мэтай рашэння ваенных, эканамічных і іншых задач, фарміруюцца з дзяржавай, з блізкімі палітычнымі рэжымамі.

ВАЙНА - арганізаваная ўзброеная барацьба паміж дзяржавамі, класамі або нацыямі (народамі). В., як правіла, звязана з палітыкай. Нямецкі ваенны тэарэтык К.фон Клаузевіц (1780-1831) пісаў, што В.не толькі палітычны акт, але і сапраўдная прылада палітыкі, працяг палітыкі іншымі (гвалтоўнымі) сродкамі. Гэты пункт погляду падтрымлівалі Маркс, Энгельс, Ленін. Разам з тым найбольш важнымі прычынамі В.могуць быць іншыя фактары: эканамічныя, прававыя, рэлігійныя, псіхалагічныя і г.д., якія праяўляюцца ў палітыцы.

Для дасягнення канкрэтных мэт у В.выкарыстоўваюцца ўзброеныя сілы, а таксама эканамічныя, ідэалагічныя і іншыя сродкі барацьбы.

Абсалютная большасць палітыкаў сусветнага супольніцтва лічыць, што ў сучасных умовах усе спрэчныя пытанні павінны вырашацца выключна палітычнымі, а не ваеннымі сродкамі.

ВЕТА (лац.veto - забараняю) - у сучасных дзяржавах права кі-

раўніка дзяржавы або верхняй палаты парламента прыпыніць увод у дзеянне закона, які прыняты законатворчым органам або яго ніжняй палатай. Правам В.часам называюць прынцып аднагалоснасці пастаянных членаў Савета Бяспекі ААН: ні адно рашэнне па пытаннях міжнароднага міру і бяспекі не лічыцца прынятым, калі супраць яго галасуе хоць адзін з пастаянных членаў Савета Бяспекі.

ВОТУМ (лац.*votum*- жаданне) - рашэнне, прынятае галасаваннем, якое выказвае давер ці недавер дзейнасці Ўрада. Пры вынясенні В.недаверу Ўрад, як правіла, ідзе ў адстаўку.

ГЕАГРАФІЯ ПАЛІТЫЧНАЯ - галіна навукі, якая вывучае ўзаемасувязь палітычных працэсаў з тэрытарыяльнымі, эканамічна-геаграфічнымі, фізіка-кліматычнымі і іншымі прыроднымі фактарамі. Вывучэнне гэтых узаемасувязей мяркуе выкарыстанне дадзенай навукай сацыялагічных, картаграфічных і іншых спецыяльных метадаў.

Як адносна самастойны навуковы напрамак Г.п. склалася ў канцы XIX ст. ў працах нямецкіх вучоных К.Рыттэра, Ф.Ратцэля і французскага вучонага А.Зігфрыда. Рыттэру належыць ідэя супастаўлення гісторыі чалавецтва і гісторыі прыроды. Ратцэль сфармуляваў антрапагеаграфічныя прынцыпы даследавання. Зігфрыд першы выступіў за экалагічныя падыходы да электаральнай геаграфіі. З другой паловы XX ст., у сферу Г.п. паступова ўключаюцца такія пытанні як міграцыйныя працэсы, эвалюцыя рассялення розных этнасаў, асаблівасці прыняцця кіраўніцкіх рашэнняў пры размеркаванні дзяржаўных асігнаванняў.

У апошні час назіраецца далейшае пераплятанне Г.п. з палітычнай сацыялогіяй, прыкладнымі паліталагічнымі тэорыямі. Яна дае рэкамендацыі па састаўленню выбарчых кампаній, рэгуляванню міграцыйных працэсаў і г.д.

ГЕАПАЛІТЫКА (грэч.*gē* - зямля + грэч.*politike* - мастацтва кіравання дзяржавай) - прыкладная, шераважна міждысцыплінарная тэорыя, якая вывучае залежнасць дзяржаўных, дзеянняў ад уплыву геаграфічных фактараў на станаўленне і эвалюцыю эканамічнай, палітычнай і сацыяльнай сістэм грамадства. Г. служыць адным з тэарэтычных абгрунтаванняў палітыкі дзяржаў як унутры грамадства, так і на міжнароднай арэне.

Да ліку актуальных праблем геапалітычнага характару большасці дзяржаў свету адносяцца пытанні рэгіянальнага супрацоўніцтва, міжнароднай інтэграцыі і дэзінтэграцыі, супрацоўніцтва ў крызісных

раёнах, а ўнутры краін - электаральная палітыка, улік рэгіянальных асаблівасцей у распаўсюджванні рэлігій і культур, адміністрацыйна-дзяржаўнае ўпарадкаванне нацыянальных меншасцей.

ГРАМАДЗЯНСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ - сфера непалітычных, гэта значыць асабістых, сямейных, духоўных, эканамічных і іншых адносін. Гэта тая частка грамадства, куды дзяржава непасрэдна не ўмешваецца, дзе магчыма адносная свабода ў штодзённых справах, клопатах, учынках, думках. Галоўнае прызначэнне Г.с. у тым, каб абараніць чалавека, гарантаваць яго правы. Для стварэння Г.с. неабходна наяўнасць розных форм маёмасці, што дазваляе чалавеку быць эканамічна незалежным ад дзяржавы. Неабходна таксама несупярэчлівая і правераная часам сістэма законаў, "звычка" да закону.

ГРУПЫ САЦЫЯЛЬНЫЯ - адносна ўстойлівыя сукупнасці індывідаў, якія аб'яднаны агульнасцю інтарэсаў (а таксама каштоўнасцей і нормаў паводзін) і знаходзяцца ў больш менш сістэматычным узаемадзеянні на падставе гэтых інтарэсаў. Да Г.с. можна аднесці: сацыяльна-дэмаграфічныя групы, якія адрозніваюцца па прызнаку полу і ўзросту; унутрыкласавыя сацыяльныя групы (рабочыя высокай і нізкай кваліфікацыі, сяляне-калгаснікі і сяляне-фермеры і г.д.); сацыяльныя групы адрозніваюцца па прафесіі, адукацыі, даходах, месцы жыхарства; рэлігійныя сацыяльныя групы, а таксама часовыя, якія ўзнікаюць у канкрэтнай сітуацыі па той ці іншай прычыне (ветэраны вайны, імігранты, беханцы).

ГРУПЫ ІНТАРЭСАЎ - групы асоб, якія не з'яўляюцца палітычнымі партыямі, але імкнуцца ўплываць на ўрад рознымі спосабамі.

Г.і. ствараюцца для рэалізацыі інтарэсаў канкрэтных сацыяльных груп (прадпрымальнікаў, фермераў, жанчын, рэлігійных груп, моладзі і інш.). Г.і. у адрозненне ад партый звычайна не вылучаюць кандыдатаў на выбарныя пасады, іх галоўны спосаб дзеяння - перакананне, парады тым, хто кіруе. Такім чынам, асноўная палітычная функцыя Г.і. - артыкуляцыя інтарэсаў разнастайных сацыяльных груп. Г.і.эфектыўна выконваюць свае функцыі тады, калі яны прадстаўляюць усю разнастайнасць існуючых у грамадстве інтарэсаў: эканамічных, экалагічных, тэрытарыяльных, галіновых, рэлігійных.

Атрымала распаўсюджванне <u>тыпалогія</u> Г.і. Г.Алмонда і Г.Паўэла, якія выдзелілі 4 групы інтарэсаў па ступені іх арганізацыі і спецыялізацыі: <u>анамічныя</u> групы (стыхійныя і недаўгачасныя, н-д, мітынгі, дэманстрацыі); <u>неасацыятыўныя</u> (нефармальныя, непастаянныя

і недабравольныя фарміраванні на аснове роднасці, рэлігіі і г.д.); інстытуцыянальныя (фармальныя арганізацыі, н-д, прадстаўніцтва абласцей ці рэспублік); асацыятыўныя, валодаючыя высокім узроўнем сацыялізацыі і арганізацыі, н-д, прафсаюзы).

Усе Г.і. маюць пэўныя рэсурсы ўплывання. Галоўныя з іх - колькасны састаў і арганізацыя.

ГУМАНІЗМ (лац humanus чалавечны) - сукупнасць ідэй, поглядаў, перакананняў, зацвярджаючых высокае прызванне чалавека, яго каштоўнасць як асобы, права на свабоду, шчасце, развіццё і праяўленне сваіх здольнасцей. Г.узнік як накірунак грамадска-палітычнай думкі ў эпоху Адраджэння, атрымаў магутны імпульс у перыяд буржуазных рэвалюцый ХУП-ХIХ ст. Яго асноўным вынікам і праяўленнем быў лібералізм, галоўным дасягненнем якога з'яўляюцца ідэі роўнасці і свабоды асобы, абгрунтаванне грамадскіх і палітычных правоў чалавека, рух за ўстанаўленне роўнага выбарчага права.

У наш час гуманістычны ідэал дапаўняецца неабходнасцю фарміравання і зацвярджэння агульначалавечных каштоўнасцей, сацыяльных правоў асобы. Паколькі паміж грамадзянскім і сацыяльным правамі ёсць супярэчнасць, важнай праблемай сучаснага Г. з'яўляецца знаходжанне аптымальнага спалучэння грамадзянскіх і сацыяльных правоў чалавека, стварэнне сацыяльнай прававой дзяржавы.

ДАГАВОР ГРАМАДСКІ - пераход асобных індывідаў, якія лаяльна адносяцца да сацыяльна-дзяржаўнага становішча праз узаемныя абмежаванні і перанясенне правоў адзін на аднаго ў дагаворы. Ідэя Д.г., якая ўзнікла яшчэ ў глыбокай старажытнасці, знайшла грунтоўнае адлюстраванне ў сацыяльна-прававых вучэннях ХУП-ХУШ ст.

ДАГМАТЫЗМ (грэч. dogma- палажэнне, якое прымаецца за бяспрэчную ісціну) - антыгістарычны недыялектычны схематычна-акасцянелы тып мыслення, пры якім аналіз і ацэнка тэарэтычных і практычных праблем і палажэнняў праводзіцца без уліку канкрэтнай рэчаіснасці, умоў, месца і часу.

Тэрмін Д.быў уведзены старажытнагрэчаскімі скептыкамі Піронам і Зянонам. Яны адмаўлялі магчымасць сапраўдных ведаў і абвінавачвалі ў Д.філосафаў, якія рабілі сцвярджальныя вывады аб субстанцыі рэчаў.

Гнасеалагічная аснова Д. - аднабаковыя адносіны да ісціны, прызнанне ў ёй абсалютнага моманту пры адначасовым ігнараванні яе адноснасці.

ДАКТРЫНА ПАЛІТЫЧНАЯ (лац doctrina- вучэнне) - сістэма поглядаў, прынцыпаў; формула, якая выражае асноўную ўстаноўку палітычнай дзейнасці.

ДЗЕЙНАСЦЬ ПАЛІТЫЧНАЯ - гэта дзейнасць, накіраваная на заваёву ўлады або ўплыў на яе.

Дз.п. мае сваю структуру. У яе звычайна ўключаюць: а) аб'екты і суб'екты; б) мэты гэтай дзейнасці; в) абставіны ажыццяўлення палітычнай дзейнасці; г) формы і спосабы палітычнага дзеяння.

Да аб'ектаў Дз.п. адносяцца: улада, палітычныя інстытуты, палітычныя адносіны, палітычная сістэма ў цэлым.

Да суб'ектаў Дз.п. адносяць: класы, сацыяльныя групы, этнічныя супольнасці, партыі, масавыя грамадскія арганізацыі.

ДЗЯРЖАВА - форма арганізацыі грамадства, якая неабходна для існавання і нармальнага развіцця краіны ў рамках сучаснай цывілізацыі. Тэрмін Д. ужываецца, каб абазначыць: па-першае, вялікую грамадскую групу (краіну, нацыю, айчыну і іна.); па-другое, адносіны палітычнай улады: паміж грамадзянамі і органамі дзяржавы, паміж дзяржаўнымі органамі (напрыклад, урадам і парламентам); па-трэцяе, сукупнасць органаў, устаноў і іх функцыянаванне. Д.характарызуецца спецыфічнымі рысамі; прыналежнасцю (падданствам, грамадзянствам), правам на прымяненне прымусу, суверэнітэтам і ўсеагульнасцю. Сярод іншых элементаў палітычнай сістэмы Д.адрозніваецца сваімі атрыбутамі: наяўнасцю тэрыторыі, насельніцтва, дзяржаўнага апарату і г.д. Д.выконвае ўнутраныя функцыі: абарону існуючага спосабу вытворчасці, эканамічнай сістэмы і сацыяльна-палітычнай структуры грамадства; рэгуляванне гаспадарчай дзейнасці; захаванне правапарадку і законаў; рэгуляванне адносін паміж класамі, сацыяльнымі слаямі і групамі; культурна-выхаваўчую і ідэалагічную функцыі і інш., а таксама і знешнія функцыі: абарону эканамічных і палітычных інтарэсаў дзяржавы на сусветнай арэне; забеспячэнне цэласнасці, бяспекі, дзяржаўнага суверэнітэту; развіццё ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва і інтэграцыі; удзел у міжнародных справах і арганізацыях.

ДУМКА ГРАМАДСКАЯ - стан масавай свядомасці, які заключае ў сабе адносіны (утоеныя або яўныя) розных груп людзей да падзей і фактаў сацыяльнай рэчаіснасці.

Д.г. рэальна выяўляе сябе праз сістэму сацыялагічных даследаванняў, апытанняў волевыяўленняў людзей у ходзе выбарчых кампаній,

рэферэндумаў, масавых мітынгаў, маніфестацый, сходаў і г.д., праз сродкі масавай інфармацыі (СМІ).

Д.г. выконвае пэўныя функцыі як у маштабах усёй дзяржавы, так і ў рамках розных груп і слаёў насельніцтва (рабочы клас, моладзь, пенсіянеры, асобы адной прафесіі, жыхары горада, працаўнікі прадпрыемства) дае параду, садзейнічае прыняццю рашэнняў, выносіць рашэнне, уплывае на палітычныя паводзіны.

Д.г. дзейнічае практычна ва ўсіх галінах жыцця. Адначасова мае свае межы, якія вызначаюцца грамадскай значнасцю абмяркоўваемых падзей, з'яў. Прагрэсіўная роля грамадскай думкі найбольш вялікая пры спалучэнні звычайнай грамадскай свядомасці з тэарэтычнымі ведамі.

Трэба адрозніваць Д.г. большасці і меншасці. На Д.г. вялікі ўплыў аказвае існуючы сацыяльна-палітычны лад, эканамічная сітуацыя, СМІ, адукацыя, культура насельніцтва і шэраг іншых фактараў.

ДЫКТАТУРА (лац.dictatura- неабмежаваная ўлада) - сістэма палітычнага панавання якога-небудзь класа ў класавым грамадстве. У сучаснай палітычнай навуцы азначае неабмежаваную праваю або любымі інстытутамі дзяржаўную ўладу, важнейшым спосабам ажыццяўлення якой з'яўляецца ўзброенае насілле. Процілегласцю Д.выступае дэмакратыя.

Д.ёсць асобы спосаб ажыццяўлення ўлады з прымяненнем гвалтоўных метадаў, рэпрэсій, узброенай сілы. Яна часцей за ўсё ўзнікае ў перыяды надзвычайнага абвастрэння класавай барацьбы, звужэння сацыяльнай апоры існуючай улады, пры ўзурпацыі ўлады асобнымі групамі або людзьмі, а таксама пры замене адной палітычнай сістэмы другой у ходзе рэвалюцыі або контррэвалюцыі.

ДЭІДЭАЛАГІЗАЦЫЯ - паняцце, якое азначае ўстараненне ўплыву ідэалогіі на масавае палітычнае разуменне і грамадскія працэсы. Тэарэтычнае абгрунтаванне гэтага паняцця было дадзена ў 50-60 гадах XX ст. Р.Аронам і Д.Белам, якія сцвярджалі, што ў сучасных умовах ідэалогія страчвае сваё значэнне ў грамадскім жыцці, а яе месца займаюць навуковыя веды, нейтральнае ўяўленне аб сучаснасці. Такім чынам, Д.практыкавалася як пераўтварэнне навукова-тэхнічных фактараў ў рашаючую сілу пераадольвання сацыяльных і палітычных канфліктаў.

ДЭМАКРАТЫЧНЫ МЕХАНІЗМ - гэта сістэма элементаў, звязаных паміж сабой і ўзаемаабумоўленых. У больш распаўсюджаным значэнні

Д.м. уключае увесь спектр агульначалавечных дасягненняў: заканадаўчае замацаванне асноўных эканамічных, сацыяльных, палітычных правоў чалавека, свабодныя і строга перыядычныя выбары. У гэтым механізме выбары становяцца сродкам уплыву грамадзян на ўладу, адстойвання сваіх інтарэсаў шляхам законнай і мірнай змены яе; рашэнне пытанняў большасцю пры цвёрдых гарантыях правоў меншасці. Гэта робіць саму большасць няўстойлівай і не дае яе перамозе перарасці ў дыктат і тыранію; спалучэнне форм непасрэднай і прадстаўнічай дэмакратыі; наяўнасць лаяльнай апазіцыі. У гэтым выпадку саперніцаючыя палітычныя сілы выпрацоўваюць пэўныя "правілы гульні", якіх абавязваюцца прытрымлівацца наяўнасць не менш дзвюх палітычных партый, якія сапернічаюць паміж сабой, не дапускаючы тым самым узурпацыі ўлады адной палітычнай сілай; раздзяленне заканадаўчай і выканаўчай улады пры іх адносная самастойнасці ў рамках замацаваных паўнамоцтваў; незалежнасць суда; наяўнасць альтэрнатыўных крыніц інфармацыі.

ДЭМАГОГІЯ - уздзеянне на людзей з дапамогай ілжывых абяцанняў, скажэння фактаў, грубай ліслівасці для дасягнення сваіх мэт.

ДЭМАКРАТЫЯ (грэч.*demos*- народ.*kratos*- улада) - спосаб уладкавання палітычнай сістэмы, які дазваляе ёй функцыянаваць стабільна і ў інтарэсах грамадства з захаваннем асноўных правоў чалавека. Д.азначае: прадстаўленне грамадзянства магчыма шырокаму колу дарослага насельніцтва; высокую ступень удзелу грамадзян ў палітычным працэсе; вырашэнне пытанняў галасаваннем; магчымасць для кожнага грамадзяніна атрымаць усю неабходную інфармацыю па сутнасці пытання, вынесенага на галасаванне; кантроль за дзейнасцю ўлад з боку грамадзян; галоснасць у рабоце ўлад усіх узроўняў. Для рэалізацыі прынцыпаў Д.неабходна: заканадаўчае замацаванне асноўных эканамічных, сацыяльных, палітычных правоў чалавека; правядзенне свабодных і строга перыядычных выбараў; рашэнне пытанняў большасцю пры цвёрдых гарантыях праў меншасці; наяўнасць апазіцыі і не менш дзвюх палітычных партый; раздзяленне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады; наяўнасць альтэрнатыўных крыніц інфармацыі.

ДЭСПАТЫЗМ (грэч.*despoteia* - неабмежаваная ўлада, дэспат - пан, уладар) - абсалютная і беззаконная ўлада, самавольства, самадурства, самаўпраўства.

Часам Д.з'яўляецца тыранічным праяўленнем заслужанага аўтарытэту. У гэтай якасці нярэдка адзначаецца ў палітычных дзеячаў ста-

рэйшага пакалення ў адносінах да пачынаючых палітыкаў.

ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА - гэта агульны курс дзяржавы ў міжнародных справах, прызваны рэгуляваць адносіны адной дзяржавы да іншых краін і народаў у адпаведнасці з яе прынцыпамі і мэтамі, якія ажыццяўляюцца рознымі сродкамі і метадамі.

Асноўныя мэты З.п. ў найбольш канцэнтраваным выглядзе можна выдзеліць у наступныя групы:

- гарантаванне нацыянальнай бяспекі дадзенай дзяржавы; узрастанне эканамічнай і палітычнай магутнасці дзяржавы; рост прэстыжу дзяржавы ў міжнародных справах.

Адна з галоўных праблем сучаснай З.п. заключаецца ў неабходнасці стварэння сістэмы міжнароднай бяспекі, якая грунтавалася б на даверы і міры, свабодным ад ядзернага ўзбраення, насілля, страху, падазронасці і нянавісці. Выдзяляюць некаторыя віды З.п., характэрныя для тых ці іншых сучасных дзяржаў: актыўная, пасіўная, агрэсіўная, кансерватыўная.

Сярод характэрных функцый выдзяляюцца: ахоўная, прадстаўніча-інфармацыйная, арганізацыйная.

ІДЭАЛОГІЯ (грэч. idealogos- вобраз, слова). Існуюць дзве трактоўкі паняцця І. З аднаго боку, І.трактуецца як разнавіднасць міфа ці палітычная дэмагогія. З другога, што І.з'яўляецца навуковай ісцінай, а значыць адзіна вернай. У І.злучаюцца навука і светапогляд, ідэалы і каштоўнасці, міфы і эмоцыі. Яны фарміруюцца з ідэй, ідэалаў, якія існуюць у кожным грамадстве на кожным канкрэтным этапе яго развіцця. І.ствараюць вучоныя, філосафы, літаратары, рэлігійныя і палітычныя дзеячы. У ёй змешчаны ўяўленні аб сутнасці чалавека і грамадства, шляхах і мэтах развіцця грамадства. Ступень распаўсюджвання і ўплыў І.залежыць ад таго, наколькі яна адпавядае інтарэсам, патрэбам людзей, якія жывуць у дадзеным грамадстве. І. выконвае розныя функцыі: аб'ядноўвае людзей, ацэньвае і тлумачыць падзеі, мабілізуе да дзеянняў вялікія масы людзей, выконвае прагнастычную функцыю.

ІДЭАЛОГІЯ ПАЛІТЫЧНАЯ - сістэма поглядаў пэўнага класа, нацыі, сацыяльных груп, звязаных с барацьбой за ўладу з мэтай рэалізацыі сваіх інтарэсаў. Яна не мае права падстройвацца пад чыі-небудзь густы і настроі, абвяшчае сваю мэту ў кароткія тэрміны.

ІМПІЧМЕНТ (англ. impeachment ганьбаванне, абвінавачванне)

асобы парадак прыцягнення да адказнасці і судовага разгляду спраў аб злачынстве вышэйшых службовых асоб у некаторых буржуазных дзяржавах (напрыклад, у ЗША, Вялікабрытаніі, Японіі). І.прадугледжвае, што пытанне аб прыцягненні да адказнасці вырашае ніжняя палата парламента (кангрэса), а разгляд справы і вынясенне прыгавору ажыццяўляе верхняя палата.

ІНСТЫТУТЫ ПАЛІТЫЧНЫЯ - гэта разнавіднасць сацыяльных інстытутаў. І.п. узнікаюць у працэсе раздзялення палітычнай працы, увасабляючыся ў розных палітычных арганізацыях і ўстановах - дзяржаўных, партыйных, ідэйна-палітычных і інш.

Шматграннасць І.п. вызначаецца дыферэнцыяцыяй палітычнай дзейнасці і палітычнай улады на розныя віды. Па характару мэт вылзяляюцца І.п. заканадаўчай, выканаўчай і судовай улад кожнаму з якіх уласціва шматфункцыянальнасць.

Па характару арганізацыі адрозніваюцца фармальныя і нефармальныя І.п. (дзяржаўныя арганізацыі, палітычныя партыі і інш.) строга рэгламентуюцца нормамі, зафіксаванымі ў законах, уставах, інструкцыях і г.д. Нефармальныя І.п. заснаваны на цесны асабістых сувязях, узаемных сімпатыях, непасрэдных зносінах, зносінах дзеяння, імкненняў, пачуццяў, інтарэсаў.

Характарыстыкамі І.п. з'яўляюцца стабільнасць, эфектыўнасць, легітымнасць і легальнасць, мэта, статус у палітычнай сістэме і інш.

ІНТАРЭС ПАЛІТЫЧНЫ - гэта сукупнасць палітычных патрэбнасцей: удзел у кіраванні, уплыў на палітыку, стварэнне палітычных партый, выбар органаў улады і лідэраў і г.д.

І.п. у грамадстве падзяляюцца перш-наперш па ступені супольнасці: індывідуальны - групавы - класавы - нацыянальны - народны - планетарны. Кожны з іх, за выключэннем першага і апошняга, выступае і як прыватны, і як агульны, суадносячыся па прынцыпу "матрошкі".

І.п. могуць быць аб'ектыўнымі, г.зн. мець імкненне да таго, што аб'ектыўна карысна дадзенаму індывіду, класу, групе, і суб'ектыўнымі, г.зн. мець імкненне да таго, што здаецца карысным ім самім.

ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМ - аб'ектыўная тэндэнцыя і патрэба грамадскага развіцця, якая садзейнічае развіццю і збліжэнню нацый. І.супрацьлеглы як нацыяналізму, так і нацыянальнаму нігілізму. І.на пра-

дугледжвае паглынання нацый і растварэння іх у адзіным "катле". Ён наадварот, прызнае нацыянальныя каштоўнасці і інтарэсы кожнага народа, іх дыялектычны сінтэз з інтэрнацыянальнымі. І.не адмаўляе неабходнасці захавання самакіравання, самастойнасці, самабытнасці нацый. У сучасных умовах важна не падпарадкоўваць нацыянальныя інтарэсы інтэрнацыянальным, а іх узгадняць.

КАНСЕРВАТЫЗМ (лац.*conservare*- зберагаць) - разнавіднасць ідэйна-палітычнай плыні, якая вылучае ў якасці асноўных патрабаванняў захаванне маральнага парадку і натуральна-прававых устояў, што ляжаць у аснове сям'і, рэлігіі і ўласнасці.

Нягледзячы на мноства адценняў, формаў і напрамкаў, якія адлюстроўвалі інтарэсы розных грамадскіх груп на розных этапах гістарычнага развіцця. К.мае пэўную сістэму каштоўнасцей. Галоўная роля жыццядзейнасці грамадства прыпісваецца прыватнай уласнасці, якая трактуецца ў якасці гаранта асабістай свабоды і сацыяльнага парадку. Адным з самых важных прынцыпаў К.з'яўляецца традыцыяналізм, гэта значыць прыхільнасць да традыцый, да ўсяго нязменнага, сталага, прызнанне існуючага ўсеагульнага маральна-рэлігійнага парадку, перакананне ў прыроднай няроўнасці людзей, абмежаваных магчымасцях чалавечага розуму. Свабода, паводле канцэпцыі К.,ніколі не можа быць свабоднай ад маральных прадпісанняў.

К.апраўдвае моцную ўладу, задачай якой з'яўляецца падтрымка законаў у дзяржаве. У той жа час выканаўчая ўлада павінна быць абмежавана маральнымі і канстытуцыйнымі нормамі. Для кансерватараў характэрны адмоўныя адносіны да ідэі сацыяльнай роўнасці.

КАНСЭНСУС (лац.*consensus*- згода, аднадушнасць, узгодненасць) - наяўнасць паміж двума і больш індывідамі падобных пазнаваўчых і практычных арыентацый, якія дазваляюць ім устанавіць узаемаразуменне і ўзаемадзеянне ў розных сітуацыях. У больш вузкім, спецыфічна сацыяльным сэнсе К. - гэта згода значнай большасці любога згуртавання адносна найбольш важных аспектаў яго сацыяльнага парадку, што выражаецца ва ўзгодненых дзеяннях людзей і абумоўлівае існаванне і функцыянаванне дадзенага згуртавання.

К. - гэта своеасаблівы антыпод канфлікту. К.абазначае наяўнасць паміж двума і больш суб'ектамі падобных арыентацый па якіх-небудзь праблемах грамадскага жыцця. Зыходным пунктам для дасягнення кансэнсусу з'яўляецца прызнанне чужых інтарэсаў, права на іх існаванне.

КАНФЕДЭРАЦЫЯ (лац. звязваць дагаворам, злучаць) - палітычны саюз суверэнных дзяржаў, якія захоўваюць незалежнае існаванне і аб'ядноўваюцца толькі для каардынацыі некаторых сваіх дзеянняў, звычайна знешнепалітычных і ваенных. К.мае цэнтральныя органы, якія валодаюць паўнамоцтвамі, устаноўленымі па згодзе яе членаў. Рашэнні цэнтральных органаў, якія прымаюцца па прынцыпу адзінагалосся, выконваюцца ў адпаведных дзяржавах толькі са згоды іх органаў улады і ўпраўлення. Адзінай палітычнай, прававой, эканамічнай, налогавай сістэмы К.не мае. Дзяржавы маюць самастойнае грамадзянства, валюту, армію і г.д. Прававой формай утварэння К. з'яўляецца дагавор. К.як форма аб'яднання дзяржаў сустракаецца адносна рэдка і, як правіла, носіць часовы характар. Канфедэрацыяй была Швейцарыя з 1281 па 1818 гг., Сенегамбія (саюз Сенегала і Гамбіі) з 1982 па 1989 гг. Сучасныя формы К. - гэта супольнасць, пакт, дагавор, ваенна-палітычны саюз.

КАНФЛІКТ ПАЛІТЫЧНЫ (лац.*conflictus* сутыкненне) - сутыкненне дзвюх або больш процілеглых сіл з мэтай рэалізацыі іх інтарэсаў ва ўмовах процідзеяння. У якасці суб'ектаў канфлікт могуць выступаць індывіды, малыя і вялікія групы, фармальна арганізаваныя ў спецыяльныя аб'яднанні, узнікшыя на нефармальнай аснове, у выглядзе палітызаваных сацыяльных рухаў, эканамічных і палітычных груп ціску, якія ўсведамляюць і праследуюць пэўныя мэты.

К.п. - стан палітычных адносін, у якім іх удзельнікі вядуць барацьбу за каштоўнасць і пэўны статус, уладу і рэсурсы, барацьбу, у якой мэтамі праціўніка з'яўляецца нейтралізацыя, нанясенне шкоды або знішчэнне саперніка. Сутнасць канфлікту ў неадпаведнасці паміж тым, што ёсць, і тым, што павінна быць па ўяўленню ўцягнутых у канфлікт груп і індывідаў, якія суб'ектыўна ўспрымаюць свае месца ў грамадстве і свае адносіны да іншых людзей, груп і інстытутаў.

К.п. узнікаюць з супярэчнасцей, якія аб'ектыўна існуюць паміж сацыяльнымі групамі ці супольнасцямі і аб'яднаннямі. Калі супярэчнасці доўгі час не вырашаюцца мірнымі сродкамі, яны непазбежна перарастаюць у канфлікт.

КАНСТЫТУЦЫЯНАЛІЗМ - ужываецца ў двух значэннях, адно з якіх фармальнае, а другое больш істотнае.

У першым значэнні К.трактуецца як маяўнасць законаў або канстытуцый, якія рэгулююць дзяржаўнае праўленне. У Вялікабрытаніі, напрыклад, гэта паняцце зводзіцца проста да набору юрыдычных і

неюрыдычных законаў, на падставе якіх ствараецца сістэма кіравання. Да цяперашняга часу там не ўстаноўлена падпарадкаванне ўрадавай дзейнасці якому-небудзь адзінаму канстытуцыйнаму дакументу. Амаль у кожнай другой краіне тэрмін азначае набор чыста юрыдычных законаў, сабраных у адным ці некалькіх цесна звязаных паміж сабой дакументах.

Калі ў першым значэнні К.не прыдаецца ўвагі зместу асноўных законаў, то ў другім акцэнт робіцца менавіта на гэта. Многія аўтары трактуюць К.як устанаўленне і функцыянаванне палітычных сістэм, якім уласціва філасофія абмежаванай улады.

КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯ - уяўляе сабой рэакцыю звяргаемага або звергнутага класа на сацыяльную рэвалюцыю, барацьбу за падаўленне новай улады і рэстаўрацыю старога ладу. Паколькі пануючыя класы (або панаваўшыя) добраахвотна не аддаюць улады, контррэвалюцыйнае супраціўленне ў той ці іншай форме суправаджае ўсякую рэвалюцыю.

КАНФАРМІЗМ (лац. *con* - з, разам і *forma* - від, форма) прыстасавальніцтва, пасіўнае прыняцце існуючага парадку, пануючай думкі і г.д.; адсутнасць уласных пазіцый (беспрынцыповасць і некрытычнае следаванне любому прыкладу, які валодае найбольшай сілай ціску (аўтарытэт, традыцыя і да т.п.).

К. - згодна, прымірэнне, прыстасаванне да агульных настрояў, пануючых поглядаў і думак; непраціўленне пераважным тэндэнцыям, нягледзячы на разыходжанні з імі, якія не выказваюцца.

КІРАЎНІК ПАЛІТЫЧНЫ - арганізатар, які атрымлівае ўласныя паўнамоцтвы ў выніку назначэння або выбараў на тую ці іншую пасаду шляхам свядомага падбору. Яго кіраўніцтва больш-менш стабільнае, таму што абапіраецца на акрэсленае законам кола правоў і абавязкаў. Каб палітычная сістэма функцыянавала паспяхова, пажаданай з'яўляецца сітуацыя супадзення лідэра і кіраўніка ў адной асобе. У гэтым выпадку давер, аказаны яму масамі, дапаўняецца канкрэтнымі паўнамоцтвамі ўлады.

КЛАСЫ - вялікія групы людзей, якія адрозніваюцца па адносінах да сродкаў вытворчасці, па месцы ў гістарычна вызначанай сістэме грамадскай вытворчасці, па ролі ў грамадскай арганізацыі працы, а таксама па памерах і спосабах атрымання даходаў. Гэта азначэнне, якое даў У.І.Ленін, указвае на тое, што месца, роля, а значыць і мэты К.у грамадстве розныя. Дабіваючыся дасягнення гэтых мэт, К. уступаюць у сферу палітычнай барацьбы і становяцца суб'ектамі палітыкі.

КЛІКА (франц. *clique* - шайка, банда). К.у палітычным жыцці - гэта група ўладароў, якія маюць выключна вузкія, карысныя, часта злачынныя мэты. К.дзейнічае толькі ў сваіх інтарэсах, мае мэтай толькі асабістую карысць і ігнаруе карысць усяго грамадства. У грамадстве з моцнымі бюракратычнымі структурамі і дэмакратычнымі інстытутамі магчымасць для з'яўлення. К.абмежавана. Тэрмін К. больш выкарыстоўваецца як моцнае слоўца ў вострай палітычнай барацьбе.

КОНСУЛ (лац. *consul*) - вышэйшая выбарная асоба ў старажытным Рыме (у перыяд рэспублікі); у сучасным міжнародным праве службовы прадстаўнік дзяржавы, які абараняе яе прававыя, эканамічныя і іншыя інтарэсы яго юрыдычных асоб і грамадзян у якім-небудзь горадзе (раёне), другой дзяржаве, якія носяць назву консульскай акругі.

КРЫЗІС УЛАДЫ - паняцце, якое характарызуе страту палітычнай уладай адной з асноўных уласцівых ёй рыс - суверэнітэту, аўтарытэту, наяўнасці волі або прымусу. Гаварыць аб наяўнасці палітычнай улады ў грамадстве можна толькі ў тым выпадку, калі ёй уласцівы ўсе названыя рысы без выключэння. Крызіс палітычнай улады, які ў грамадстве часцей называецца безуладдзем, па сутнасці абазначае пераход улады ад адной палітычнай сілы да другой.

КУЛЬТ АСОБЫ - надзвычайная, завышаная ацэнка функцыі і ролі палітычнага лідэра ў гісторыі, пакланенне яму. Выступае заканамерным вынікам і адной з прадпасылак таталітарнага ладу, хаця сустракаецца і ў аўтарытарных і дэмакратычных дзяржавах. Па сваёй сутнасці К.а. - адна ўленне язычніцкага ідалапаклонства што знаходзіць у прыватнасці, сваё адлюстраванне ў помніках, маўзалеях, мемарыяльных комплексах, рэлігійна-палітычных рытуалах і інш. Ідэйныя вытокі культу ляжаць у таталітарнай ідэалогіі, яе прэтэнзіі на манапольную ўладу, універсальную, усеагульную значнасць. "Бацькі" такой ідэалогіі надзяляюцца якасцямі прарокаў, а сама ідэалогія, на іх думку, з'яўляецца адзіна сапраўднай.

Спрыяльным асяроддзем К.а. з'яўляецца патрыярхальная і падданіцкая палітычная культура, якая зыходзіць з веры ў добрага цара або кіраўніка, з прынцыпа жорсткай іерархічнай арганізацыі грамадства. Аднак галоўнай непасрэдна. прычынай К.а. з'яўляецца вялікая канцэнтрацыя палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай улады ў руках палітычнага лідэра, а таксама татальная асабістая залежнасць усіх

ніжэйшых не ад вынікаў сваёй працы, а ад вернасці сістэме або лідэру, адданасці начальству. Адлюстроўваючыся ў масавым усведамленні, усё гэта, спалучаемае з сістэматычнай ідэалагічнай апрацоўкай, парараджае ў насельніцтва веру ва ўсемагутнасць кіраўніка,страх перад ім, рабскую пакорнасць.

КУЛЬТУРА (лац.*cultura* - апрацоўка, апрацоўванне) - гістарычна акрэслены ўзровень развіцця грамадства, творчых сіл і здольнасцей чалавека, выражаных у сродках арганізацыі жыцця і дзейнасці, а таксама ў ствараемых ім матэрыяльных і духоўных каштоўнасцях. У матэрыяльнай форме К.выступае як прылада працы, тэхналогія вытворчасці, норм, правоў, твораў літаратуры і мастацтва. У духоўнай форме яна ажыццяўляецца ў рознага роду ўяўленнях аб навакольным свеце і саміи чалавеку, ідэях, навуковых тэорыях, ідэалогіі і інш. К.як паняцце і як з'ява шматгранная. З аднаго боку, К.з'яўляецца прадуктам жыццядзейнасці людзей, з другога - сама жыццядзейнасць ажыццяўляецца ў канкрэтна-гістарычным культурным асяроддзі. Яна дыферэнцыруецца па сферах грамадскага жыцця і праяўляецца як К. матэрыяльная - вытворчая, эканамічная, маральная, прававая, экалагічная, мастацкая, палітычная і інш.

КУЛЬТУРА ПАЛІТЫЧНАЯ - сукупнасць норм паводзін, якія датычацца да ўзаемаадносін улады і грамадзян. Яна з'яўляецца дыялектычным адзінствам ведаў, палітыкі, адносін да палітыкі і рэальных палітычных паводзін, узятых разам з прадуктамі палітычнай дзейнасці.

У структуры К.п. можна вылучыць тры галоўныя элементы: кагнітыўны, нарматыўна-ацэначны і элемент паводзін. Пры характарыстыцы структуры К.п. у яе кагнітыўным узроўні выяўляюцца такія кампаненты, як палітычныя веды, палітычная адукаванасць, спосаб палітычнага мыслення. Нарматыўна-ацэначны элемент змяшчае палітычныя пачуцці, ацэнкі, традыцыі, ідэалы, палітычную перакананасць. Існаванне элемента паводзін звязана ў асноўным з палітычнымі ўстаноўкамі, тыпамі палітычнай актыўнасці, а таксама характарызуецца развітымі палітычнымі вучэннямі і навукамі палітычнай дзейнасці.

Адрозніваюць К.п. грамадства, сацыяльнай супольнасці і асобы. К.п. уяўляе сабой сінтэз палітычных культур усіх класаў грамадства і іншых сацыяльных супольнасцей пры дамінуючай ролі культуры пануючага класа або сацыяльнай групы. Яна носіць на сабе сляды палітычных культур і традыцый, атрыманых у спадчыну ад мінулага.

КУЛЬТУРАЛОГІЯ ПАЛІТЫЧНАЯ - спецыфічны напрамак у палітычнай навуцы, які даследуе сацыякультурныя працэсы ў палітычным жыцці. Асноўны акцэнт робіцца на вывучэнне каштоўнасных уяўленняў грамадзян, асаблівасцей фарміравання палітычнай ментальнасці, механізмаў палітычнай культуры, забеспячэння культурнай пераеннасці і інш. Пры гэтым палітыка-культурныя даследаванні, зарыентаваныя не толькі на апісанне, але і на разуменне склаўшыхся каштоўнасцей, сімвалаў, стэрэатыпаў і г.д., на вывучэнне разнастайных індывідуальных і групавых інтарэсаў, якія стымулююць палітычны ўдзел чалавека.

КУРС ПАЛІТЫЧНЫ - напрамак ў палітыцы (напрыклад, курс на разрадку міжнароднай напружанасці).

ЛАБІЗМ (англ. lobby - кулуары) як палітычная з'ява выступае адной з разнавіднасцей груп ціску. Ён дзейнічае ў форме разнастайных камітэтаў, камісій, саветаў, бюро, якія ствараюцца пры заканадаўчых і ўрадавых арганізацыях. Асноўная іх задача складаецца з наладжвання кантактаў з палітычнымі дзеячамі і чыноўнікамі з мэтай аказання непасрэднага, прамога ўплыву на прыняцце рашэнняў (вызначаных законапраектаў, атрыманне ўрадавых заказаў, субсідый і інш.) у інтарэсах прадстаўляемых імі арганізацый. Сярод метадаў Л.выкарыстоўвае інфармаванне, кансультаванне, подкуп, пагрозы, шантаж і інш. Л.як палітычная з'ява першапачаткова ўзнік у ЗША, а потым распаўсюдзіўся па другіх краінах. Закон аб рэгуляванні Л. быў прыняты ў ЗША ў 1946г., аднак канстытуцыйным Л. стаў толькі праз восем гадоў. Сёння колькасць лабістаў у Вашынгтоне перавышае колькасць дэпутатаў дзвюх палат Кангрэса. У Англіі іх называюць парламенцкімі агентамі.

ЛЕГІТЫМНАСЦЬ (лац. legitimus - законны) - прызнанне правамернасці афіцыйнай улады грамадствам і міжнароднай садружнасцю. Патрабаванне Л.улады ўзнікла як рэакцыя супраць гвалтоўнай змены і гвалтоўнай перабудовы дзяржаўных меж. Яна выражае ўсведамленне пераважнасці агульнапрынятага парадку над захопам улады сілай, заваяваннем, парушэннем агульнапрызнаных норм.

Легітымізацыя - працэдура грамадскага прызнання якога-небудзь дзеяння, дзеючай асобы, падзей або фактаў; у палітыцы - яе прызнання, тлумачэння і апраўдання.

ЛІБЕРАЛІЗМ (лац. liberalis - свабодны) вучэнне і грамадска-палітычная плынь, якая змяшчае ўстаноўку на забеспячэнне свабоды

асобы; другіх грамадскіх і палітычных праў індывіда і абмежаванне сферы дзейнасці дзяржавы. Паняцце "ліберальны, свабодны" распаўсюджваецца на ўсе асноўныя сферы грамадскага жыцця: эканамічную, палітычную, духоўную.

У эканамічнай сферы Л.выступае з патрабаваннем поўнага вызвалення эканамічнай дзейнасці з-пад апекі дзяржавы, абараняе свабоду рыначных адносін, асабістае прадпрымальніцтва. Індывідуальная свабода, якая заключаецца ў забеспячэнні магчыма большай свабоды аканамічнай дзейнасці, правоў на ўласнасць, роўнасці шансаў, правоў і магчымасцей рэалізаваць свае жыццёвыя мэты, выбіраць сферу дзейнасці з'яўляецца ключавой у Л.

У палітычнай сферы Л.абвяшчае свабоду, якая залежыць ад якіх-небудзь крытэрыяў дзяржаўнага ладу, свабоду стварэння ўсіх магчымых саюзаў, партый, арганізацый. Дзяржава, па перакананню лібералаў, павінна выконваць строга акрэсленыя функцыі - падтрымку грамадскага парадку і знешнюю абарону. З Л.цесна звязана канцэпцыя падзелу і ўзаемнага кантролю ўлад, а таксама дух памяркоўнасці і кампрамісу. Свабода можа існаваць толькі пад кантролем законаў. У духоўнай сферы абвяшчаецца свабода волевыяўлення поглядаў. Пры гэтым перавага аддаецца не свабодзе калектыву, а свабодзе асобы, індывіда.

ЛІДЭР ПАЛІТЫЧНЫ - фармальны ці нефармальны аўтарытэт, які мае фактычны ўплыў на ўсіх, хто яго акружае. Л.п. дзякуючы набору сацыяльна-псіхалагічных рыс, свайму грамадскаму становішчу можа ўплываць на ход палітычных працэсаў. Ён замыкае іерархію сацыяльных носьбітаў улады, з'яўляючыся, як правіла, кіраўніком дзяржавы, палітычнай партыі, арганізацыі, руха. Л.п. павінен быць здольным удзельнічаць у прыняцці палітычных рашэнняў на ўсіх узроўнях, правільна ацэньваць альтэрнатыўныя варыянты, валодаць трывалай грамадзянскай пазіцыяй, быць непрымірымым да несправядлівасці, беззаконнасці, адступленняў ад прынцыпаў агульначалавечай маралі, умець узаемадзейнічаць з працоўнымі калектывамі і грамадскімі арганізацыямі, улічваць грамадскую думку і плюралізм поглядаў, пераконваць і весці за сабой людзей. Чым вышэй ступень адпаведнасці Л.п. патрабам грамадскага развіцця, тым больш значны яго ўплыў на ход палітычнага працэсу.

МАКІЯВЕЛІЗМ (ад імя М.Макіявелі) - вобраз палітычнай дзейнасці, які не грэбуе любымі сродкамі для дасягнення пастаўленай мэты.

М. - палітыка, што зневажае законы маралі, не разбіраецца ў сродках дасягнення палітычных мэт.

МАНАРХІЯ - форма праўлення ці арганізацыя вярхоўнай дзяржаўнай улады, якая характарызуецца тым, што на чале дзяржавы знаходзіцца манарх. Атрыманне ім улады не залежыць ад якой-небудзь іншай улады, органа ці выбаршчыкаў. Вядомы два віды М.: абсалютная і канстытуцыйная. Абсалютная М. мяркуе ўсеўладдзе манарха, неабмежаванасць яго паўнамоцтваў. Канстытуцыйная М. характарызуецца тым, што глава дзяржавы абмежаваны ў сваіх паўнамоцтвах якім-небудзь іншым органам улады (парламентам, саветам і г.д.). Паўнамоцтвы могуць размяркоўвацца паміж імі па-рознаму. У адных выпадках манарх абмежаваны ў сферы заканадаўства, але валодае моцнай выканаўчай уладай. У другіх выпадках улада манарха распаўсюджваецца на заканадаўчую сферу, але практычна ён пазбаўлены выканаўчых паўнамоцтваў. Пры гэтым яго заканадаўчая ўлада з'яўляецца, як правіла, чыста намінальнай, таму што любы заканадаўчы акт, які ад яго зыходзіць, патрабуе подпісу старшыні ўрада. Такія М.існуюць сёння ў Вялікабрытаніі, Швецыі, Нарвегіі, Бельгіі, Даніі, Японіі і інш.

МАРГІНАЛЬНАСЦЬ (позналац.*marginalis*- чалавек, які знаходзіцца на краю, лац.*margo*- край, мяжа) - сацыялагічнае паняцце; якое абазначае прамежкавасць, "пагранічнасць" становішча чалавека паміж якімі-небудзь сацыяльнымі групамі, што накладвае пэўны адбітак на яго псіхіку. Уведзена амерыканскім сацыёлагам Р.Паркам, які абазначаў гэтым паняццем становішча мулатаў і лічыў, што "маргінальная асоба" валодае шэрагам характэрных рыс: клапатлівасцю, агрэсіўнасцю, славалюбствам, чуллівасцю, саманлівасцю, эгацэнтрычнасцю.

МАРКЕТЫНГ ПАЛІТЫЧНЫ - тэрмін "М" запазычаны з сферы прадпрымальніцтва і абазначае арганізацыю збыту тавараў і паслуг, прычым яго важнейшай умовай з'яўляецца перавышэнне прапановы над попытам. М.п. - гэта сукупнасць сродкаў, з дапамогай якіх пісьмова, мэтанакіравана і карэктна выяўляюцца і дэманструюцца розным сацыяльным і нацыянальным групам выбаршчыкаў рэальныя якасці і годнасці кандыдата ў прадстаўнічыя ўстановы. М.п. развіты перш за ўсё ў тых краінах, дзе выбары з'яўляюцца важнейшай працэдурай у фарміраванні органаў улады.

МЕНТАЛІТЭТ (у палітыцы) - сукупнасць устойлівых, агульнараспаўсюджаных у той ці іншай групе ўяўленняў, якія выражаюць асобае

бачанне прыналежных да яе людзей, палітычных і сацыяльных рэальнасцей. Аб'ядноўваючы рацыянальныя і падсвядомыя, пачуццёвыя і лагічныя, каштоўнасныя і іншыя погляды, М.выражае вобраз, характар, спосаб групавога палітычнага мыслення, характарызуе ўстойлівы стан настрою думак групавога суб'екта палітыкі.

У залежнасці ад складваўшагася М.клас, народ, нацыя і іншыя супольнасці і групы валодаюць пэўнай успрыімлівасцю да таго ці іншага тыпу ідэалогіі, культурных норм, палітычных патрабаванняў і г.д. Разам з тым М.валодае і здольнасцю аказваць адносна аўтаномнае ўздзеянне на палітычныя паводзіны суб'ектаў.

МІФАЛОГІЯ ПАЛІТЫЧНАЯ - няправільнае, фантастычнае адлюстраванне рэчаіснасці, якое стварае ідэйную аснову для захопу, утрымання ўлады, барацьбы з палітычнымі кіраўнікамі. Сёння ў свеце няма ідэалогіі, якая была б свабодна ад М.п. Кансерватызм, лібералізм, хрысціянства, камунізм, змяшчаюць у сабе свае міфы. Гістарычны вопыт паказвае, аднак, што поўная замена навуковых і проста дакладных ведаў міфалогіяй вядзе да цяжкіх для народаў і дзяржаў вынікаў.

МОНАЦЭНТРЫЗМ - прынцып кіравання, пры якім палітычная сістэма кіруе грамадствам і кіруецца сама з адзінага цэнтра. Палітычныя інстытуты пабудаваны строга вертыкальна. Грамадства прадстаўляе сабой піраміду, на вяршыні якой знаходзіцца галоўны палітычны інстытут (дзяржава, партыя, арганізацыя і г.д.). Далей ідуць выканаўчы апарат і народ. Такая сістэма не дапускае існавання свабодных ідэй, адвяргае палітычную канкурэнцыю. У ёй не існуе адваротнай сувязі. У крытычных умовах (войны, стыхійныя бедствы і г.д.) М.палітычныя сістэмы могуць дзейнічаць высокаэфектыўна. Але ва ўмовах палітычнай і эканамічнай стабільнасці М.іграе адмоўную, рэакцыйную ролю.

МЭТАМЕРКАВАННЕ ПАЛІТЫЧНАЕ - выпрацоўка палітычных мэт, якія датычацца да змянення (умацавання) улады, палітычных інстытутаў, развіцця дэмакратыі, класавых, нацыянальных адносін, эканамічнай, сацыяльнай і інш. сфер грамадскага жыцця. М.п. знаходзіць сваё выяўленне ў канстытуцыях і законах, дакументах палітычных партый і арганізацый і набывае статус усеагульнасці. Улічваючы рэальныя магчымасці яго ажыццяўлення, М.п. дыферэнцыруецца на тактычнае і стратэгічнае. Выбар і ўстанаўленне М.п. патрабуе сур'ёзнай дзейнасці. Яна абапіраецца на навуковы аналіз працэсаў, якія адбываюцца

на ўсебаковыя разлікі, прагнозы, ацэнкі магчымых альтэрнатыў палітычнага курса.

НАРОД - 1) у шырокім сэнсе слова - усё насельніцтва пэўнай краіны. 2) Тэрмін, які ўжываецца для абазначэння розных форм этнічных супольнасцей (племені, народнасці, нацыі). 3) Гэта адзінае сацыяльнае цэлае, якое мае агульны гістарычны лёс. У склад народа ўваходзяць класы і сацыяльныя групы, але пры іх разнастайнасці ў кожным канкрэтным грамадстве іх злучае агульны магістральны інтарэс, які падпарадкоўвае сабе ўсё іншае (выжыванне ў экстрэмальных умовах, пераадоленне крызісу, патрыятызм і г.д.). Ён кансалідуе людзей і робіць Н.паўнапраўным суб'ектам палітыкі.

НАСІЛЛЕ ПАЛІТЫЧНАЕ - выкарыстоўваецца тымі або іншымі палітычнымі сіламі для дасягнення, заваявання, утрымання ўлады або ўздзеяння на яе, а таксама для дасягнення непалітычных мэт, напрыклад, для асабістага абагачэння правіцеля. Сутнасць Н.п. састаіць у нанясенні шкоды чалавеку, сацыяльнай групе, пазбаўленні свабоды, здароўя, уласнасці, жыцця. Суб'ектамі Н.п. могуць выступаць розныя палітычныя інстытуты - дзяржавы, партыі, грамадска-палітычныя рухі і арганізацыі, палітычныя дзеячы, асобныя грамадзяне.

Н.п. ажыццяўляецца дзяржавай, адрозніваецца адкрытасцю, асаблівай сілаю, маштабам і праводзіцца спецыяльнымі дзяржаўнымі органамі. Дзяржава можа весці рэпрэсійную эканамічную палітыку, выкарыстоўваць непамерныя падаткі для аграблення народа, зверхінтэнсіўна выкарыстоўваць працоўныя сілы і інш. Г.п. з боку дзяржавы можа праяўляцца ў выглядзе войн, рэпрэсій супраць іншадумцаў, фізічнага знішчэння сапраўднай і ўяўнай апазіцыі, асобных этнічных груповак.

Н.п. можа здзяйсняцца і сіламі апазіцыйнымі ў адносінах да існуючай улады або палітычнай сістэмы. Для гэтага імі часта выкарыстоўваюцца такія формы насілля, як тэрарыстычныя акты, путчы, перавароты, бунты, паўстанні і інш. У сучаснай паліталогіі Н.п. усё больш падпадае пад крытыку, ставіцца пад сумненні яго эфектыўнасць у вырашэнні тых ці іншых сацыяльна-палітычных праблем. Асаблівая ўвага ўдзяляецца больш шырокаму выкарыстоўванню ненасільных метадаў.

НАЦЫЯНАЛІЗМ - прызнанне ас... істай нацыянальнай выключнасці супрацьпастаўленне дадзенай нацыі іншым. Н. - гэта імкненне забяспечыць перавагу сваёй нацыі, задаволіць яе інтарэсы без уліку ін

тарэсаў іншых народаў ці нават за кошт іх ушчамлення. Важна аддзяляць нацыянальнае ад нацыяналістычнага. Да першага адносіцца законнае, правамернае імкненне кожнай нацыі захаваць сваю самабытнасць: мову, традыцыі, лад жыцця, гістарычную памяць. Н. - гэта хваравітае, скажонае нацыянальнае, даведзенае да крайнасці. Пераход аднаго ў другое часта адбываецца непрыкметна, пад уздзеяннем эмоцый. Трэба адзначыць, што Н.адных непазбежна выклікае Н.іншых, што вядзе да міжнацыянальных канфліктаў.

НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ - гэта сукупнасць палітычных, эканамічных, прававых, ідэалагічных і іншых праблем, якія праяўляюцца ў працэсе ўнутрыдзяржаўных і міждзяржаўных зносін паміж нацыямі, народнасцямі. Яно ўключае ў сябе праблемы: нацыянальнай няроўнасці; дзялення нацый на прывілеяваныя - бяспраўныя, на вялікадзяржаўныя і прыгнечаныя; няроўнасці эканамічнага і культурнага развіцця розных нацый; існавання нацыянальных канфліктаў, варожасці і падазронасці. Кожны з гэтых элементаў Н.п. можа мець розную ступень напружанасці і маштабнасць праўлення. Н.п. заўсёды мае канкрэтна-гістарычны змест, які ўключае ў сябе сукупнасць нацыянальных праблем на дадзеным этапе развіцця той ці іншай краіны. Пакуль існуюць нацыі, да той пары будзе існаваць і Н.п. у тых ці іншых аспектах. Асноўнымі прынцыпамі дэмакратычнага ўрэгулявання Н.п. з'яўляецца прынцып нацыянальнага самавызначэння, а таксама прынцып поўнага раўнапраўя нацый і грамадзян незалежна ад мовы, рэлігіі, расы, нацыянальнасці.

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АДНОСІНЫ - узаемаадносіны людзей, якія належаць да розных этнасаў. (Сёння ў свеце налічваецца каля 5 тысяч народаў). Н.а. з'яўляюцца спецыфічнай формай грамадскіх адносін і цесна звязаны з сацыяльна-эканамічнай, палітычнай і духоўнай сферамі жыцця грамадства. Палітычныя аспекты ў сістэме Н.а. з'яўляюцца галоўнымі, таму што палітыка - гэта дзейнасць у сферы адносін паміж вялікімі сацыяльнымі групамі. У развіцці Н.а. існуюць дзве галоўныя тэндэнцыі: па-першае, гэта працэсы нацыянальнага збліжэння, аб'яднання, інтэграцыі краін і народаў; па-другое, гэта працэсы нацыянальнага развіцця і размежавання. Праблема Н.а. займае вельмі важнае месца ў палітычным жыцці ўсіх краін света, больш за 90% якіх з'яўляюцца многанацыянальнымі.

ПАВОДЗІНЫ ПАЛІТЫЧНЫЯ - разнавіднасць сацыяльнай актыўнасці суб'ектаў, дзеянні якіх носяць матываваны характар і выражаюць

рэалізацыю імі сваіх палітычных статусаў.

П.п. - універсальная характарыстыка палітычнага жыцця, якая прыняніма да любых суб'ектаў і носьбітаў уладарных адносін (індывідуальных, групавых, масавых, інстытулізаваных і неінстытулізаваных).

Змест і характар П.п. залежыць ад тыпу суб'екта, зместу матываў дзеяння і іх адпаведнасці нормам палітычнай сістэмы, тых ці іншых сродкаў дасягнення мэт, стану кантэкст-асяроддзя, якое абумоўлівае ход дзеянняў, а таксама ад аб'екта дзеянняў.

ПАРТЫЯ ПАЛІТЫЧНАЯ (лац. partis - частка). Зачаткі партыі склаліся яшчэ ў старажытнасці ў выглядзе сасло\ўных груповак, якія адлюстроўвалі зацікаўленасць розных слаёў пануючага класа і змагаліся паміж сабой за дзяржаўную ўладу.

У Х1Х ст. з утварэннем партый і рухаў, з'яўляюцца розныя пункты гледжання, якія растлумачваюць паходжанне і сутнасць гэтага складанага палітычнага феномена. Звычайна вылучаюцца тры асноўныя падыходы: 1) партыя як ідэалагічная сукупнасць людзей; 2) партыя як арганізацыя, якая базіруецца на дысцыпліне і субардынацыі; 3) партыя як прадстаўнік пэўнага класа.

У сучаснай паліталагічнай літаратуры існуе каля 20 азначэнняў П.п. Можна даць наступнае азначэнне: П.п. - гэта добраахвотны саюз, звязаны ідэалагічным адзінствам, агульнымі палітыка-эканамічнымі, сацыяльна-класавымі, культурна-нацыянальнымі і іншымі інтарэсамі і ідэаламі, які імкнецца актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцці грамадства і мае на мэце заваяванне палітычнай улады або ўдзел у ажыццяўленні ўлады ў дзяржаве.

Масавыя партыі характарызуюцца шматлікасцю (наяўнасцю дзесяткаў, соцень, тысяч членаў), ідэалагічнай арыентаванасцю і перавагай ідэалагічнай і выхаваўчай форм дзейнасці, наяўнасцю цеснай сувязі апарата і партыйных мас, параўнальна жорсткай арганізацыяй.

ПАЛІТЫКА (грэч. politika - майстэрства кіравання дзяржавай). Можна даць чатыры вызначэнні П. 1) Майстэрства кіравання дзяржавай. 2) Фарміраванна ўлады і сферы яе дзеяння. 3) Дзейнасць па дасягненню пэўных мэт. 4) Адносіны паміж класамі і сацыяльнымі групамі, іх арганізацыямі, у аснове якіх знаходзіцца праблема сацыяльнага статуса і адносіны да дзяр ўнай улады.

П. прадстаўляе сабой сукупнасць вызначаемых каріннымі інтарэсамі тых ці іншых класаў, партый і дзяржаў, устаноў і мэт, якімі

яны кіруюцца ва ўнутраных ці міжнародных справах, а таксама іх практычную дзейнасць па здзяйсненню выпрацаванага курса і дасягненню намечаных мэт.

ПАЛІТЫКА ЎНУТРАНАЯ - вобласць дзейнасці дзяржавы па кіраванню справамі грамадства. На Захадзе П.у. часта называюць нацыянальнай палітыкай. Сярод відаў П.у. выдзяляюць эканамічную, фінансавую, сацыяльную, нацыянальную, культурную, дэмаграфічную і інш. П.у. уплывае на фактычны лёс мільёнаў людзей, выражае карэнныя ўмовы існавання нацый, класаў, сацыяльных, слаёў і груп грамадства. Маштабы і рэальныя вынікі П.у. вызначаюцца ад дзяржаўнай улады, пануючымі ўяўленнямі аб ролі ўлады ў жыцці грамадства.

ПАЛІТАЛОГІЯ (грэч. politika - майстэрства кіравання дзяржавай, logos - веды), што літаральна азначае веды аб палітыцы, палітычных рэальнасцях.

П. - навука аб палітыцы (у шырокім сэнсе слова); галіна навуковых ведаў, якая вывучае палітыку, палітычныя адносіны, уладу ў грамадстве.

П. - гэта навука аб палітычных адносінах і палітычнай дзейнасці людзей, аб заканамернасцях развіцця палітычных сістэм, аб сутнасці, формах і метадах палітычнай улады.

Прадмет П. - палітыка, палітычныя адносіны, улада.

Аб'ект П. - палітычныя інстытуты, сацыяльна-палітычныя сістэмы, суб'екты палітыкі, інутраная і знешняя палітыка дзяржаў і міжнародныя адносіны, палітычная ідэалогія, палітычная свядомасць, палітычная культура, палітычныя тэорыі, вучэнні і канцэпцыі.

ПАПУЛІЗМ - разнавіднасць палітычнай дзейнасці дзяржавы, або іншых палітычных інстытутаў, структур і палітычных лідэраў, якая дапускае ў якасці асноўных сродкаў апраўданне або дасягненне карысных мэт, прамую апеляцыю да грамадскай думкі, апору на масавы настрой. Як правіла, П. арыентаваны на спрашчэнне палітычнай сітуацыі, пошук звернутага да народа лозунга, рэалізацыя якога, быццам забяспечыць хуткую ліквідацыю ўсіх бед і праблем.

Палітычныя патрабаванні папулісцкага толку агульнадаступныя для разумення шырокімі сацыяльнымі коламі і разлічаны на такую прывабнасць мэт, якая можа забяспечыць іх масавую падтрымку. Найбольш ярка П.праяўляецца ў праўленні рэжыму, які ўзначальвае харызматычны лідэр.

Нярэдка П.звязаны з маніпуліраваннем грамадскай думкі, камуф-

ліраваннем сапраўдных палітычных намераў, барацьбой палітычных эліт. У той жа час папулісцкія меры могуць служыць і часткаю рацыянальнага палітычнага курса, элементам забеспячэння масавай падтрымкі легітымных мэт.

ПАРАДЫГМА (гр.*paradeigma* - прыклад, узор) - сукупнасць пазнавальных прынцыпаў і прыёмаў адлюстравання палітычнай рэальнасці, якія фарміруюць логіку арганізацыі ведаў, мадэль тэарэтычнага тлумачэння дадзенай групы сацыяльных з'яў. Шляхам выпрацоўкі той ці іншай П.у даследчыка фарміруюцца спрадвечныя крытэрыі і ўстаноўкі на пэўнае разуменне палітычных з'яў, адпаведны падбор і інтэрпрэтацыя фактаў, абагульненне і сістэматызацыя інфармацый.

ПАРЛАМЕНЦКАЯ РЭСПУБЛІКА - форма дзяржаўнага кіравання, дзе асноўныя паўнамоцтвы сканцэнтраваны ў руках парламента. Ён выбіраецца грамадзянамі краіны і з'яўляецца адзіным выбарным органам у дзяржаве. Парламент фарміруе ўрад, які захоўвае сваю выканаўчую ўладу да тых пор, пакуль ён карыстаецца даверам парламента. У П.р. кіраванне краінай здзяйсняецца ўрадам, а яго кіраўнік фактычна з'яўляецца главой дзяржавы. Пры вызначаных абставінах ён можа распусціць парламент і назначыць новыя выбары. Такая сістэма існуе ў Аўстрыі, Італіі, ФРГ, Швейцарыі і інш.

ПАСОЛЬСТВА - узначальваемае паслом пастаяннае прадстаўніцтва якой-небудзь дзяржавы на тэрыторыі другой краіны. Яно ствараецца па сагласэнню паміж імі для здзяйснення дыпламатычных адносін. Для забеспячэння эфектыўнага здзяйснення ўскладзеных на пасольства функцый яго супрацоўнікі карыстаюцца дыпламатычнымі прывілеямі.

ПАТРЫЯТЫЗМ (грэч.*patriotes* - суайчыннік) - любоў да радзімы, айчыны, адданасць ім, імкненне дзеяннямі служыць яе інтарэсам.

П. - гэта эмацыянальныя адносіны да радзімы, якія выражаюцца ў гатоўнасці служыць ёй і абараняць яе ад ворагаў.

Неправамерныя, ненавуковыя і абсурдныя сучасныя спробы асобных палітыкаў дзяліць людзей на патрыётаў і не патрыётаў на аснове адрознення ў поглядах аб шляхах сацыяльна-эканамічных і палітычных пераўтварэнняў.

ПЛЕБІСЦЫТ (лац.*plebiscitum*- рашэнне народа) - адзін з відаў народнага галасавання. У міжнародных адносінах прымяняецца пры апытанні насельніцтва тэрыторыі аб яе прыналежнасці да той ці іншай дзяржавы.

ПЛЮРАЛІЗМ ПАЛІТЫЧНЫ (лац.*pluralis* - множны) - адзін з прын-

цыпаў арганізацыі грамадства, згодна якому грамадска-палітычнае жыццё павінна ўключыць мноства розных узаемазалежных і сумесна з тым аўтаномных сацыяльных і палітычных груп, партый, арганізацый, установак, ідэі і праграм, якіх знаходзяцца ў пастаянным супрацьпастаўленні, канкурэнтнай барацьбе. Плюралістычная арганізацыя папярэджвае манапалізацыю грамадства і перш за ўсё ўлады з дапамогай рознага роду супрацьпастаўленняў.

П.п. пашырае патэнцыял сацыяльнага абнаўлення, магчымасць зараджэння і рэалізацый альтэрнатыўных варыянтаў прагрэсу, садзейнічае развіццю і ўсебаковаму праяўленню асобы. Ён зацвярджае права кожнага чалавека прытрымлівацца любых поглядаў і прапаведаваць іх, павагу да іншадумцаў, прынцыпы дыскусій і кампрамісу ў палітычным працэсе.

Канцэпцыя П.п. вырасла з лібералізму. Вялікі ўклад у яго развіццё ўнеслі Д.Мэдзісон, Г.Ласкі (ён упершыню ўвёў у навуковы зварот тэрмін "плюралізм"), Э.Бернштэйн і інш. Паводле дактрыны П.п. індывід і група пярвічны ў адносінах да палітычных структур, да дзяржавы. Гэта сістэма ў той ці іншай меры імкнецца да дэцэнтралізацыі, да плюралізацыі цэнтраў улады, якая ў ідэале павінна быць размеркавана паміж грамадскімі групамі. Ніякая асобная арганізацыя не можа і не павінна прадстаўляць усё грамадства і навязваць яму сваю волю. Грамадскія інтарэсы фарміруюцца на аснове балансу прыватных інтарэсаў. Адпаведна прынцыпам П.п. ніхто не мае права ўладаць манаполіяй на канчатковую, вышэйшую ісціну, на адзіны рэцэпт дасягнення ўсеагульнага дабрабыту і шчасця. Свабодная барацьба ідэй і інтарэсаў, саперніцтва арганізаваных грамадскіх груп лічыцца натуральным становішчам здаровага сацыяльнага арганізма.

ПСІХАЛОГІЯ ПАЛІТЫЧНАЯ - навуковая дысцыпліна, якая ўзнікла на стыку навукі аб палітыцы, з аднаго боку, і псіхалогіі (у асноўным сацыяльнай псіхалогіі) - з другой.

Першая спецыялізаваная праца на П.п. выдадзена ў 1930г. Г.Ласуэлам ("Псіхапаталогія і палітыка"). Фармальна час з'яўлення гэтай дысцыпліны датуецца 1968г., калі ў рамках Амерыканскай Асацыяцыі палітычных навук было створана аддзяленне палітычнай псіхалогіі і адначасова ў Йельскім універсітэце ЗША спецыяльная праграма паглыбленай падрыхтоўкі палітолагаў у галіне палітычных ведаў.

На думку заходніх аўтараў, прадметам палітычнай псіхалогіі з'яўляюцца псіхалагічныя кампаненты палітычных паводзін чалавека,

вывучэнне якіх дазваляе прымяніць псіхалагічныя веды да тлумачэння палітыкі.

У змесце П.п. можна выдзеліць адносна ўстойлівую (здаровы сэнс, псіхалагічны склад этнасаў, норавы і больш рухомую (настрої, эмоцыі, перажыванні, чаканні) часткі, элементы якіх па-рознаму ўплываюць на змест паводзін суб'екта. Інтэгруючы рэальныя суб'ектыўныя якасці палітычных суб'ектаў, палітычная псіхалогія здольна аказваць рашаючы ўплыў на ўзнікненне спецыфічных палітычных груп (натоўпу, масы, публікі). Як правіла, да функцый П.п. адносяць успрыманне і ўсведамленне палітычных інтарэсаў, адаптацыю чалавека да палітычнай сферы, ажыццяўленне матывацыі палітычных паводзін, рэалізацыю ідэалагічных патрабаванняў і палітычную сацыялізацыю асобы.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА - прынцыпы, нормы ўзаемаадносін паміж людзьмі і дзяржавамі, якія забяспечваюць індывіду магчымасць дзейнічаць па свайму бачанню - гэтую частку правоў называюць свабоднымі. Звычайна да іх адносяць свабоду слова, друку, сходаў, сумлення. Размежаванне правоў і свабод носіць, вядома, умоўны характар, паколькі кожнае права - гэта ў пэўным сэнсе свабода. А кожная свабода ёсць права свабодна думаць і дзейнічаць. Зафіксаваныя і дзеючыя ў многіх краінах свету правы і свабоды можна раздзяляць на некалькі груп: асабістыя правы і свабоды грамадзян, сацыяльна-эканамічныя, палітычныя і сацыяльна-культурныя.

Да асабістых правоў і свабод адносяцца: права на жыццё, на свабоду і асабістую недатыкальнасць; свабоду думкі, сумлення, рэлігіі, перакананняў і інш. У гэтых правах і свабодах увасоблена ідэя дзяржаўнай абароны асобы як суверэннай адзінкі, яе законных інтарэсаў.

Да сацыяльна-эканамічных правоў адносяцца: правы на маёмасць, на сацыяльнае забеспячэнне, на працу, на адпачынак і вольны час; на забеспячэнне ў выпадку хваробы і г.д. У гэтым комплексе правоў дзяржава бярэ на сябе абавязак забяспечыць чалавеку годны ўзровень жыцця, стварыць умовы для яго самарэалізацыі.

Палітычныя правы і свабоды прадстаўлены: правам на свабоду перакананняў і іх свабоднае выражэнне, на атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі, на свабоду мірных сходаў і асацыяцый. Дэклараванне і ажыццяўленне гэтых правоў пракладвае дарогу да народаўладдзя, да ўтварэння сапраўднай дэмакратычнай сістэмы. Комплекс сацыяльна-

культурных правоў уключае: правы на адукацыю, на свабодны ўдзел у культурным жыцці грамадства, у навуковым прагрэсе.

ПРАВАВАЯ ДЗЯРЖАВА - гэта прававая форма арганізацыі і дзейнасці публічна-палітычнай улады і яе ўзаемаадносін з грамадзянамі як суб'ектамі права. П.д. патрабуе выканання наступных асноўных прынцыпаў:

- панавання права ва ўсіх сферах грамадскага жыцця і вяршэнства закону, які выражае прававыя прынцыпы грамадства;

- звязанасць законам самой дзяржавы, усіх яе органаў, грамадскіх арганізацый, службовых асоб і грамадзян;

- непахіснасць свабоды асобы, яе правоў і інтарэсаў, гонару і годнасці, іх аховы і гарантаванасці;

- узаемаадказнасці дзяржавы і асобы;

- наяўнасці эфектыўных форм кантролю і нагляду за ажыццяўленнем законаў і іншых нарматыўна-юрыдычных актаў.

ПРАВА МІЖНАРОДНАЕ - прынцып і нормы рэгулявання дзейнасці суб'ектаў міжнародных адносін, у асноўным незалежных дзяржаў.

ПРАВА ВЫБАРЧАЕ - сукупнасць дзяржаўна-прававых норм, якія рэгулююць удзел грамадзян у выбарах прадстаўнічых органаў улады, умовы і парадак правядзення выбараў, займанне выбарных дзяржаўных пасад. У адпаведнасці з ім устанаўліваецца па-першае, хто можа выбіраць і быць выбраным і па-другое - які парадак арганізацыі і правядзення выбараў, вызначэння вынікаў галасавання. Галоўнымі прынцыпамі П.в. з'яўляюцца: усеагульнасць, роўнасць, тайнае галасаванне. Адрозніваюць актыўнае і пасіўнае П.в. Актыўнае - гэта права выбіраць, г.зн. устанаўленне законам права грамадзян асабіста ўдзельнічаць у выбарах прадстаўнічых устаноў або службовых асоб. Пасіўнае П.в. - гэта права быць выбраным, г.зн. устанаўленне законам суб'ектыўнага права грамадзяніна выступаць на выбарах у якасці кандыдата ў прадстаўнічыя органы ўлады, або на выбарную дзяржаўную пасаду.

ПРАЦЭС ПАЛІТЫЧНЫ. Гэта тэрмін ужываецца ў трох сэнсах: 1) У форме функцыянавання палітычнай сістэмы грамадства, якая эвалюцыяніруе ў прасторы і часу ("сучасны грамадскі працэс"); 2) Як адзін з грамадскіх працэсаў, у адрозненне ад прававога, эканамічнага, ідэалагічнага і іншых працэсаў; 3) Як абазначэнне канкрэтнага, з канчатковым вынікам, працасу пэўнага маштабу (фарміраванне якой-небудзь палітычнай партыі, правядзенне выбараў і да т.п.).

Змест П.п. можа быць самым разнастайным: распрацоўка якой-небудзь канцэпцыі, пачынаючы з заходняй ідэі і канчаючы развітай тэорыяй (напрыклад, дэмакратызацыя палітычных адносін); фарміраванне грамадскай думкі аб кандыдатах на выбары, стварэнне новых структур кіравання і г.д.

ПУТЧ (ням.*putsch*) - дзяржаўны пераварот або яго спроба, здзейсненыя невялікай групай загаворшчыкаў.

ПЯРСОНА ГРАТА (лац.*persona grata* пажаданая асоба) - дыпламатычны прадстаўнік, на прызначэнне якога ў якасці главы дыпламатычнага прадстаўніцтва дана згода ўрада краіны, у якую ён назначаны: любы другі дыпламатычны работнік, атрымаўшы дазваленне (уязную візу) на ўезд у краіну свайго месцазнаходжання.

ПЯРСОНА НОН ГРАТА (лац.*persona non grata*- непажаданая асоба) - асоба на прызначэнне якой у якасці дыпламатычнага прадстаўніцтва не дана згода кіраўніцтва краіны, у якую яго мелі намер прызначыць; любы дыпламатычны работнік, якому кіраўніцтва краіны знаходжання па адпаведных прычынах прад'яўляе патрабаванні аб выездзе.

РАЗДЗЯЛЕННЕ ЎЛАДЫ. Тэорыя раздзялення ўлады была створана некалькімі даследчыкамі палітыкі: Дж.Локкам, у большай ступені М.Мантэск'е, а ў яе сучаснай форме А.Гамільтонам, Д.Мэдзісонам і Д.Джэем. Асноўныя палажэнні гэтай тэорыі зводзяцца да наступнага: 1) заканадаўчая, выканаўчая, судовая ўлада даюцца розным людзям і органам згодна канстытуцыі; 2) усе ўлады роўныя і аўтаномныя, ні адна з іх не можа ўстараніць другую; 3) ніякая ўлада не можа карыстацца правамі, дадзенымі канстытуцыяй другой уладзе; 4) судовая ўлада дзейнічае незалежна ад палітычнага ўплыву, суддзі карыстаюцца правам доўгага заняцця пасады. Судовая ўлада можа аб'явіць закон несапраўдным, калі ён супярэчыць канстытуцыі. Раздзяленне ўлады і іх незалежнасць адзін ад аднаго з'яўляецца гарантыяй бяспекі грамадства ад беззаконнасці і злоўжывання ўладаю. Канцэпцыя раздзялення ўлады сёння ляжыць у аснове функцыянавання заканадаўчых, выканаўчых і судовых органаў улады многіх дзяржаў свету. У марксізме ідэя раздзялення ўлады традыцыйна крытыкавалася. К.Маркс быў прыхільнікам адзінства заканадаўчай і выканаўчай улады. У дадзеным выпадку ён браў за ўзор Парыжскую камуну, лічыў яе "працуючай карпарацыяй", якая сканцэнтравала ў адзін кулак уладу, што прымае законы і ўладу, выконваючую іх. Рэалізаваная на практыцы ў былым

СССР і другіх сацыялістычных краінах гэта ідэя прывяла да ўзвышэння адміністрацыйна-дапаможнага апарата і сканцэнтравання велізарнай улады ў руках выканаўчых органаў.

РАДЫКАЛІЗМ (лац.*radix* - корань) - 1) рашучае бескампрамісвае здзяйсненне намераў, імкненне да карэннага змянення існуючага становішча ў той ці іншай справе; 2) у грамадска-палітычным жыцці ўзнікла ў XIX ст. як буржуазная палітычная плынь, праграма якой зводзіцца да правядзення буржуазна-дэмакратычных рэформ, якія не закранаюць асновы сацыяльна-эканамічнага ладу. Радыкальныя партыі некаторых краін ахоўваюць у асноўным інтарэсы дробнай буржуазіі, інтэлігенцыі, сярэдняга класа.

РАСІЗМ - антынавуковая, рэакцыйная сістэма поглядаў і практычных дзеянняў, якая зыходзіць з упэўненасці ў фізічнай і псіхічнай непаўнацэннасці чалавечых рас, як быццам выключным уплывам гэтай супярэчнасці на гісторыю і культуру грамадства.

Для Р.характэрна нянавісць да чалавека, падзел людзей на вышэйшую і ніжэйшую расы, дзе першыя валодаюць правам панавання, а другія асуджаны быць аб'ектам прыгнечанасці. Гэтым расісты спрабуюць апраўдаць праводзімую імі расавую і нацыянальную дыскрымінацыю ўнутры сваёй дзяржавы і агрэсіўную захопніцкую, грабежніцкую палітыку ў адносінах да народаў другіх дзяржаў. У ХУІ-ХУШ ст.Р. служыў мэтам абагачэння каланізатараў, у тым ліку за кошт знішчэння індзейцаў Амерыкі, афрыканцаў, мільёнаў народаў Паўднёвай Азіі, Аўстраліі і Акіяніі. Асаблівую антычалавечую ролю ў міравой гісторыі адыграў "нардычны міф" аб перавазе паўночнай або нардычнай расы (нямецка-моўнае насельніцтва) над усімі другімі расамі. У гады гітлераўскай дыктатуры ў Германіі Р. стаў афіцыйнай ідэалогіяй фашызму. Расізм зліваецца ў шэрагу выпадкаў з нацыяналізмам.

Вынікі навуковых даследаванняў паказалі поўную беспадстаўнасць П.у Дэкларацыі аб расе і расавых забабонах, прынятай на 20-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКО (1978г.) гаворыцца аб тым, што розніца ў дасягненнях народаў тлумачыцца выключна геаграфічнымі, гістарычнымі, палітычнымі, эканамічнымі, сацыяльнымі і культурнымі фактарамі. Супраць Р.сведчаць сённяшнія эканамічныя і культурныя посаехі многіх азіяцкіх, лацінаамерыканскіх і афраканскіх краін, якія ўсталі на шлях самастойнага развіцця.

РАТЫФІКАЦЫЯ (лац.*ratus* - зацвярджаць і *facere* рабіць) - зацвярджэнне органамі вярхоўнай дзяржаўнай улады міжнароднага

дагавору ці саглашэння, заключанага паўнамоцнымі прадстаўнікамі дагаворных бакоў. Р.прыдае дагавору юрыдычную сілу.

РЭВАЛЮЦЫЯ(лац.*revolutio* - пераварот) - глыбокае і якаснае змяненне ў развіцці грамадства, у спосабе вытворчасці, у розных галінах ведаў.

Р. - якаснае змяненне ў развіцці прыроды, грамадства і пазнання. Сацыяльная Р.маркуе карэнны пераварот у сацыяльна-эканамічнай і палітычнай структуры грамадства. Першым актам, які азначае пераход ад адной грамадска-палітычнай фармацыі да другой, з'яўляецца Р.палітычная, г.зн. заваёва палітычнай улады рэвалюцыйным класам. Яна можа адбывацца ў мірных і немірных формах. Пытанне аб заваяванні ўлады - галоўнае питанне любой Р.

Р.ўзнікаюць у выніку пастаяннага нарастання супярэчнасцей, якія накопліваюцца ў працэсе эвалюцыйнага развіцця і вырашаюцца пераваротам, скачком, рэзкімі зменамі.

Рэваншызм (франц.*revanche*- адплата, пакаранне) - палітыка рэакцыйных палітычных сіл краін, якія пацярпелі паражэнне ў вайне, хочуць вярнуць свае страчаныя пазіцыі любой цаной, нават шляхам развязвання новых баявых дзеянняў. Палітыка Р.цесна звязана з шавінізмам, служыць падрыхтоўцы агрэсіі на падставе "адплаты" (рэваншу), вяртанне страчаных тэрыторый, устанаўлення даваенных граніц і г.д.

РЭЖЫМ АЎТАРЫТАРНЫ - дзяржаўна-палітычны лад грамадства, аснову якога складае моцная ўлада адной асобы або групы. У сваіх крайніх формах Р.а. ёсць рэжым насільны, які не абмежаваны правам улады аднаасобнага правіцеля (цара, тырана, фюрэра, правадыра і г.д.). Характэрнымі прыкметамі Р.а. з'яўляюцца: ліквідацыя ці істотнае абмежаванне асноўных дэмакратычных свабод грамадзян; забарона ўсіх апазіцыйных партый і грамадскіх арганізацый; ліквідацыя незалежных прафсаюзаў; забарона апазіцыйнай прэсы; зрастанне кіруючай партыі і іншых рэакцыйных арганізацый, якія прымыкаюць да яе - ваенных і паўваенных з дзяржаўным апаратам; фактычны, а часта і юрыдычны адказ ад прынцыпу "раздзялення ўлады"; абмежаванне выбарнасці органаў дзяржавы і ператварэнне парламента ў другарадную ўстанову, а іншы раз і яго ліквідацыя; канцэнтраванне ўсёй паўнаты ўлады ў руках урада, а дакладней, у руках кіраўніка або кіраўніка дзяржавы, якому ўрад падначалены. Р.а. узнікае, як правіла, ва ўмовах пераходных эпох і абапіраецца на ўзброеныя сілы і паліцыю.

РЭЖЫМ ДЭМАКРАТЫЧНЫ - дзяржаўна-палітычны лад грамадства, кіраўніцкія функцыі ў якім заснаваны на прызнанні народа ў якасці крыніцы ўлады, яго права ўдзельнічаць у рашэнні дзяржаўных спраў у спалучэнні з шырокім колам грамадзянскіх правоў і свабод. Характэрнымі прыкметамі Р.д. з'яўляюцца: прызнанне роўнасці ўсіх грамадзян; абвяшчэнне палітычных правоў і свабод; выбарнасць прадстаўнічых органаў; дыялог паміж грамадскасцю і ўладай; абгрунтаванне кансэнсусу, узаемнага даверу, згоды; развіццё ўсіх форм непасрэднай дэмакратыі; прызнанне прынцыпу "раздзялення ўлады", абарона шырокага палітычнага плюралізму, галоснасці; ненасільнае вырашэнне канфліктаў; ідэал-прававая дзяржава. Пры Р.д. маюць магчымасць дзейнічаць не толькі партыі, якія падтрымліваюць урад, але і апазіцыйныя; у сістэму вышэйшых органаў улады дзяржавы абавязкова ўваходзіць агульны прадстаўнічы орган - парламент, які выбіраецца і дзейнічае ў абстаноўцы легальнай барацьбы партый; урад фарміруецца партыямі ў адпаведнасці з вынікамі іх легальнай барацьбы на выбарах. "Дазволена ўсё, што не забаронена законам" - галоўнае правіла, па якому жыве і асобны чалавек, і грамадства цалкам.

РЭЖЫМ ЛІБЕРАЛЬНЫ - гэта дзяржаўна-палітычны лад грамадства пераходнага стану (напрыклад, пераходу ад таталітарызму да дэмакратыі і наадварот). Асноўнымі яго характарыстыкамі з'яўляюцца слабасць канструктыўных сацыяльна-эканамічных і палітычных праграм, адсутнасць палітычнай стабільнасці; патрабаванне развіцця галоснасці, грамадзянскіх правоў і свабод; крытычныя адносіны да існуючых структур і фарміраванне альтэрнатыўных палітычных структур; узмацненне палітызацыі мас. Р.л. непаслядоўны ў сваіх дзеяннях, таму ён існуе непрацяглы час.

РЭЖЫМ ПАЛІТЫЧНЫ - гэта спосабы і метады палітычнага ўладарання, парадак узаемаадносін паміж грамадствам і палітычнай уладай. Р.п. у любым грамадстве заўсёды абумоўлены правам, якое разумеецца як мера свабоды і як своеасаблівы тып адносін паміж асобай і дзяржавай. Змест Р.п. уключае ў сябе: ролю, палітычныя функцыі і месца кіраўніка дзяржавы ў сістэме палітычнага кіраўніцтва; спосаб і парадак фарміравання прадстаўнічай установы (выбарчая сістэма); узаемаадносіны паміж заканадаўчай і выканаўчай уладай; паміж цэнтральнымі і мясцовымі органамі; узаемаадносіны паміж палатамі прадстаўнічага органа; становішча і дзейнасць органаў падаўлення і арганізаванага прымусу ў дзяржаве; ролю недзяржаўных органаў

пануючага класа; становішча, уплыў і ўмовы дзейнасці палітычных партый, грамадскіх арганізацый; рэальныя правы і свабоды грамадзян і інш. Р.п. дыферэнцыруецца на таталітарны, аўтарытарны, ліберальны і дэмакратычны.

РЭЖЫМ ТАТАЛІТАРНЫ - дзяржаўна-палітычны лад, які характарызуецца поўным (татальным) кантролем дзяржавы над усімі сферамі жыцця грамадства. Характэрнымі прыкметамі Р.т. з'яўляюцца: адзяржаўленне не толькі грамадскага, але і ў значнай ступені прыватнага жыцця; поўнае адчужэнне грамадзян ад палітычных працэсаў; максімальнае ўшчамленне правоў і свабод грамадзян; татальны кантроль за паводзінамі асобы (паліцэйскі сыск); фактычная адсутнасць прынцыпу "раздзялення ўлады"; фарміраванне ўлады на ўсіх узроўнях праз закрытыя каналы наменклатуры; дазвол дзейнасці толькі фашысцкім партыям ці адной кіруючай партыі; замена дзейнасці іншых партый ўсёабдымным афіцыйным "рухам"; навязванне ўсім членам грамадства афіцыйнай дзяржаўнай ідэалогіі. Асноўнымі ўмовамі існавачня Р.т. з'яўляецца дэмагогія, жорсткі ідэалагічны прэсінг, які выклікае пасіўнасць мас, вядзе дэ дэградацыі партыйнага апарату. Галоўныя ворагі таталітарнай сістэмы - іншадумства і плюралізм, а ў пашане - аднастайнасць і паслухмянасць. У сучасных умовах таталітарызм уяўляе сабой галоўную пагрозу дэмакратыі і прагрэсу.

РЭСПУБЛІКА ПРЭЗІДЭНЦКАЯ - характарызуецца значнай роляй прэзідэнта ў сістэме дзяржаўных органаў. Прэзідэнт сумяшчае функцыі главы дзяржавы і главы ўрада, фарміруе ўрад і кіруе яго дзейнасцю. У Р.п. існуе двайная сістэма выбараў, г.зн. парламент і прэзідэнт выбіраюцца грамадзянамі незалежна адзін ад аднаго. Заканадаўчая (парламент) - выканаўчая (прэзідэнт) улады валодаюць значнай самастойнасцю. Станоўчымі бакамі прэзідэнцкай формы кіравання з'яўляюцца: магчымасць хуткага прыняцця рашэнняў, забеспячэнне ўстойлівасці ўсёй палітычнай сістэмы, больш поўная рэалізацыя прынцыпу падзелу ўлад. Да недахопаў Р.п. можна аднесці канцэнтрацыю ўлады ў руках аднаго чалавека і большую магчымасць канфліктаў паміж заканадаўчай і выканаўчай уладай.

РЭФЕРЭНДУМ (лац. *referendum*- тое, што павінна быць паведамлена) - усенароднае галасаванне, якое праводзіцца ў сувязі з прыняццем новай канстытуцыі, іншых важных законаў або ўнясенне ў іх змяненняў.

Р. - усенароднае волевыяўленне (галасаванне або апытанне) па

важнаму дзяржаўнаму або грамадскаму пытанню.

РЭФОРМА САЦЫЯЛЬНАЯ (франц. reforme- пераўтварыць).

Р. - гэта важнейшы мірны спосаб палітычнага дзеяння. Пад Р. разумецца змяненне, пераўтварэнне, перабудова бакоў грамадскага жыцця пры захаванні асноў існуючага ладу. Прынцыповае адрозненне Р. і рэвалюцый у тым, што Р. не прадугледжваюць пераход улады ад аднаго класа да другога. Р.мірным шляхам садзейнічаюць эканамічнаму і сацыяльнаму прагрэсу, паляпшаюць становішча працоўных і да т.п.

РУХІ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫЯ. Асаблівасць гэтых палітычных фарміраванняў заключаецца ў тым, што яны аб'ядноўваюць у першую чаргу саміх грамадзян. Р.г.-п. - гэта шматлікія аб'яднанні людзей для дасягнення пэўнай, агульнай сацыяльна-неабходчай мэты, праяўляючых у першую чаргу вызначаную грамадска-палітычную актыўнасць. З'яўленне грамадскіх аб'яднанняў, якія адыгрываюць прыкметную ролю ў палітычным жыцці грамадства, можна аднесці да XIX ст. Важным фактарам іх узнікнення з'яўляюцца нейкія сацыяльныя непаладкі, нявыкарыстаныя магчымасці для вырашэння грамадскіх праблем. Р.г-п. у залежнасці ад карэнных сваіх мэт маюць рознае значэнне. Трэба адрозніваць: 1) грамадскія рухі непалітычнага характару, гэта значыць тыя, якія не ўдзельнічаюць у барацьбе за ўладу і не ставяць сабе за мэту змяніць або ўмацаваць існуючую сістэму палітычных адносін у дадзеным грамадстве; 2) грамадскія рухі палітычнага характару або палітычныя рухі, гэта тыя, якія імкнуцца змяніць існуючыя ўмовы, або ўмацаваць іх шляхам уплыву на ўрад, або шляхам барацьбы за ўладу. У сучасных умовах усякі грамадскі рух у меншай або большай ступені носіць палітычны характар.

САМАВЫЗНАЧЭННЕ НАЦЫЙ - асноўны прынцып у сферы нацыянальных адносін. Ён уключае ў сябе: права на свабодны выбар народам дзяржаўнага ўладкавання аж да дзяржаўнага аддзялення і стварэння самастойнай дзяржавы; свабоду выбару інстытутаў і сімвалаў дзяржаўнасці; права кожнага народа самастойна вырашаць эканамічныя, палітычныя і сацыяльна-культурныя пытанні свайго развіцця.

САМАКІРАВАННЕ - тып кіравання, пры якім людзі самі кіруюць сваімі справамі. С.як адна з форм арганізацыі чалавечых адносін, абапіраецца на прынцыпах свабоды, роўнасці і непасрэднага ўдзелу ў кіраванні. С.можа праяўляцца на некалькіх узроўнях: у маштабе ўсяго грамадства - грамадскае самакіраванне; асобных рэгіёнаў

або абшчыны - мясцовае самакіраванне; у рамках вытворчасці - вытворчае самакіраванне. Ідэі і практыка С.бяруць свой пачатак ад першабытнай, абшчынна-радавой дэмакратыі. Значны ўклад у распрацоўку тэорыі грамадскага самакіравання ўнеслі прадстаўнік анархізму П.Н.Прудон, М.Бакунін, Ф.Пелуціp і інш. Ї хоць ідэал бездзяржаўнага кіравання грамадствам нідзе і ніколі не быў рэалізаваны, многія самакіруючыя пачаткі практычна былі ажыццёўлены ў дэмакратычных сістэмах. Дастаткова шырокае распаўсюдхванне ў сучасным свеце атрымала мясцовае С. Яно прадугледжвае дэцэнтралізацыю кіравання, забяспечваючы аўтаномію ніжэйшых адміністрацыйных адзінак у адносінах да цэнтра, выбарнасць вышэйшых службовых асоб, у тым ліку права іх адклікання выбаршчыкамі, непасрэдны ўдзел грамадзян у кіраванні з дапамогай грамадскіх саветаў, камісій, рэферэндумаў, апытанняў і другіх форм прамога волевыяўлення. Рэалізацыя самаўпраўленчых прынцыпаў атрымала распаўсюджванне і ў сферы вытворчасці. У эканоміцы многіх краін дзейнічае самакіруючы сектар, куды ўваходзяць прадпрыемствы, выкупленыя і кіруючыя працоўнымі калектывамі, розната рода кааператывы, а таксама індывідуальныя і сямейныя прадпрыемствы. С.ў вытворчасці праяўляецца ў саўдзельніцтве работнікаў у кіраванні прадпрыемствамі сумесна з адміністрацыяй, а ў асобных выпадках нават ў рабочым кантролі, які прадугледжвае безумоўныя правы вытворчага персаналу ў прыняцці рашэнняў.

САМАСВЯДОМАСЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ - узровень уяўленняў, якія характарызуюць засвоенасць людзьмі, прыналежнымі да той ці іншай нацыі, яе ідэалаў, культуры, традыцый, быту, а таксама разуменне іні інтарэсаў і становішча дадзенай сацыяльна-этнічнай групы ў грамадстве ў цэлым. С.н. можа складвацца як на ўзроўні нацыянальнай агульнасці ў цэлым, так і яе асобных груп і грамадзян. Парушэнне працэсу станаўлення С.н. звязана з дэфармацыяй механізму культурнай пераемнасці ў эвалюцыі нацыі, парушэннем сацыяльнай мабільнасці людзей, якія да яе належаць, і можа суправаджацца абуджэннем нацыянальнага эгаізму, агрэсіўнасцю ў адносінах да іншакультурных нацыянальных супольнасцей і іх палітычных інстытутаў.

САЦЫЯЛІЗМ УТАПІЧНЫ - сукупнасць сацыяльных вучэнняў аб новым тыпе грамадства, заснаваным на роўнасці ўсіх яго членаў, калектыўнай уласнасці, высокаразвітай маралі і абавязковасці працы для ўсіх грамадзян. Вытокі сацыяльна-утапічнага мыслення назіраюцца ў раннім хрысціянстве, у народных сацыяльна-рэлігійных вучэннях,

ерэсях. Заснавальнікам С.у. лічыцца англійскі мысліцель-гуманіст і палітычны дзеяч Томас Мор, які выказаў асабістыя погляды ў сваёй галоўнай працы "Утопія" (у перакладзе з грэчаскага - месца, якога няма).

САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЯ - самая ўплывовая сіла ў рабочым і дэмакратычным руху многіх краін. У цяперашні час на зямлі налічваецца больш за 80 партый сацыял-дэмакратычнай арыентацыі (накірунку) з колькасцю членаў болей за 17 млн.чал. Дзейнасць, роля сацыял-дэмакратычных партый у розных краінах мае падчас істотныя адрозненні. Але іх асноўныя ідэалагічныя і палітычныя ўстаноўкі, сацыяльная база, арганізацыйныя прынцыпы, формы і метады дзейнасці ў многім супадаюць. Таму большасць партый уваходзіць у Сацінтэрн і падтрымлівае яго рашэнні. Ключавымі характэрнымі рысамі класічнай С.-Д. з'яўляюцца: свабода, справядлівасць, салідарнасць, дэмакратыя, мір; барацьба за стварэнне дэмакратычнай прававой дзяржавы на аснове парламенцкай дэмакратыі, шматпартыйнасці, сапраўднага раздзялення ўлад, адмаўлення насілля, ідэі нацыянальнай выключнасці, прэтэнзіі на манапольнае валоданне ісцінай.

САЦЫЯЛОГІЯ ПАЛІТЫЧНАЯ - галіна сацыялагічных ведаў, якая вывучае палітыку як комплекс палітычных адносін, інстытутаў і свядомасці. Яна займае прамежкавае становішча паміж паліталогіяй і сацыялогіяй, прымыкаючы то да адной, то да другой з гэтых дысцыплін. Тэрмін С.п. ужываецца як у шырокім, так і ў вузкім значэннях (О.Берг-Шлосэр). У шырокім сэнсе прадметам гэтай галіны або як лічаць некаторыя вучоныя, навукі, з'яўляюцца ўсе грамадскія феномены, якія аказваюць істотны ўплыў на палітыку. У пэўных сітуацыях да іх ліку можа адносіцца любая грамадская з'ява: рэлігія, мараль, мастацтва, сям'я, спорт і г.д. С.п. у вузкім сэнсе займаецца толькі ўключанымі ў палітыку сацыяльнымі групамі і працэсамі.

С.п. вылзяляецца сярод іншых паліталагічных дысцыплін сацыялагічным падыходам да даследавання свайго прадмета, які патрабуе высвятлення залежнасці палітыкі ад грамадства, сацыяльнай датэрмінаванасці палітычных з'яў. Такі падыход не азначае прызнання накіраванай прычыннай абумоўленасці палітыкі грамадствам або яе разгляду як свайго роду надбудовы над эканамічным базісам.

Узнікненне С.п. у канцы XIX - пачатку XX ст. звязана с працамі такіх вучоных, як Вэбер, Міхельс, Моска, Парэта, Зігфрыд і інш., якія адначасова былі буйнейшымі палітолагамі і сацыёлагамі.

САЦЫЯЛІЗАЦЫЯ ПАЛІТЫЧНАЯ - працэс уключэння індывіда ў палітычную сістэму. Можна таксама сказаць, што гэта працэс уключэння асобы ў палітыку.

С.п. прадстаўляе сабой двухадзіны працэс: пераходу патрабаванняў палітычнай сістэмы ва ўнутраную структуру індывіда і рэалізацыі ім прадпісаных роляў ў ажыццяўленні электральнага выбару, узаемадзеяння з уладамі, удзелу ў палітычных партыях і г.д.

У выніку С.п. фарміруецца палітычная свядомасць асобы, яе палітычныя паводзіны, адбываецца станаўленне асобы-грамадзяніна. Пры гэтым паняцце С.п. шырэй, чым паняцці "палітычнае выхаванне" або "палітычная асвета", так як яно ўключае ў сябе не толькі мэтанакіраванае ўздзеянне на асобу пануючай ідэалогіі і палітычных інстытутаў, але і стыхійныя ўплывы, і ўласную актыўнасць індывіда.

СВЯДОМАСЦЬ ПАЛІТЫЧНАЯ - гэта сукупнасць пачуццёвых, рацыянальных, эмпірычных, тэарэтычных, каштоўных, нарматыўных, асэнсаваных прадстаўленняў, якія апасродкуюць адносіны суб'ектаў да з'явы палітычнай улады. Яна прадстаўляе сабой тую ступень сацыяльных поглядаў, якая ўзнікае ў чалавека па меры асэнсавання ім сваіх групавых інтарэсаў, іх прадстаўлення з патрабаваннямі другіх груп грамадства, а таксама разумення немагчымасці іх рэалізацыі без выкарыстання інстытутаў улады.

С.п. не з'яўляецца пасіўным адлюстраваннем палітычнага быцця, бо яно можа апярэджваць практыку, прагназіраваць развіццё палітычных працэсаў, аказваць уплыў на палітычнае жыццё, на ўсе бакі грамадскага жыцця.

Па сацыяльных функцыях яна можа быць кансерватыўнай, радыкальнай, рэфармісцкай, рэвалюцыйнай. Узроўні палітычнай свядомасці выглядаюць так: тэарэтычныя, эмпірычныя, штодзённыя, навуковыя, ідэалагічныя. Тэарэтычны ўзровень уяўляе сабой сукупнасць поглядаў, ідэй, вучэнняў, створаных на аснове навуковага даследавання палітычных працэсаў.

Эмпірычны ўзровень С.п. складаецца на глебе практычнага штодзённага вопыту людзей і фіксуе непасрэдныя праяўленчі палітычнай жыццядзейнасці грамадства. Яны адлюстроўваюцца ў суме назіранняў, навыкаў - уяўленняў, якія ўзнікаюць у удзельнікаў палітычнага працэсу. Штодзённая С.п. уяўляе сабой сукупнасць ідэй, поглядаў, якія ўзнікаюць са шматдзённай практыкі таго ці іншага класа, сацыяльнага слоя, індывідаў.

СІСТЭМА ВЫБАРЧАЯ - устаноўлены законам парадак арганізацыі выбараў у прадстаўнічыя ўстановы, спосабам правядзення галасавання і вызначэння іх вынікаў.

Найбольш распаўсюджанымі ў сусветнай практыцы з'яўляюцца мажарытарныя і прапарцыянальныя выбарчыя сістэмы. Выбарчая сістэма, у аснове якой ляжыць прынцып большасці пры вызначэнні вынікаў галасавання, называецца мажарытарнай ( франц. majrite - большасць). Згодна яе правіла выбраным лічыцца кандыдат, які атрымаў устаноўленую большасць галасоў выбаршчыкаў. Мажарытарная выбарчая сістэма звычайна мае дзве разнавіднасці - абсалютную большасць і адносную большасць. Пры мажарытарнай сістэме абсалютнай большасці пераможцу неабходна сабраць больш палovы (50% + 1 голас) у дадзенай выбарчай акрузе. Аднак на практыцы атрыманне абсалютнай большасці галасоў цяжка дасягнуць. Для гэтага кандыдату неабходна валодаць вельмі моцным уплывам у акрузе. Вось чаму галасаванне па гэтай сістэме, як правіла, праводзіцца ў два туры, прычым да ўдзелу ў другім туры дапускаюцца два кандыдаты, якія набралі найбольшую колькасць галасоў у першым туры. Падлік галасоў у другім туры вызначаецца ўжо па мажарытарнай сістэме адноснай большасці. Кандыдату дастаткова сабраць больш галасоў у параўнанні з другім прэтэндэнтам.

Прапарцыянальная выбарчая сістэма - гэта парадак вызначэння вынікаў галасавання, пры якім размеркаванне месц у органах дзяржаўнай улады ставіцца ў залежнасць ад палітычнага ўплыву партый, ад атрымання імі галасоў выбаршчыкаў. Пры выбарах, якія праводзяцца па гэтай сістэме, кандыдаты ў прадстаўнічыя органы вылучаюцца толькі палітычнымі партыямі. Кожная з іх вылучае свой спіс кандыдатаў, а выбаршчыкі аддаюць свае галасы за спіс адпаведнай партыі.

СІСТЭМА ПАЛІТЫЧНАЯ - гэта сістэма дзяржаўных і недзяржаўных сацыяльных інстытутаў, якія ажыццяўляюць пэўныя палітычныя функцыі. Асноўнымі элементамі С.п. любога грамадства з'яўляюцца: палітычныя інстытуты (арганізацыі); палітычныя і прававыя нормы; палітычныя адносіны; палітычная свядомасць і палітычная культура. Галоўным сувязным звяном палітычнай сістэмы з'яўляецца палітычная ўлада, якая прыдае палітычнай сістэме цэласнасць, выдзяляе яе з грамадства ў якасці адносна самастойнай.

Стрыжнёвым (асноўным) кампанентам С.п. грамадства з'яўляецца дзяржава. Яна выступае асноўным носьбітам палітычнай улады, асноў-

ным сродкам рэалізацыі класавых інтарэсаў і ў сувязі з гэтым галоўным суб'ектам і адначасова галоўным аб'ектам палітычнай дзейнасці і палітычных адносін. С.п. выконвае наступныя функцыі: вызначае і фармулюе стратэгічныя мэты развіцця грамадства; мабілізуе рэсурсы для дасягнення гэтых мэт; размяркоўвае матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці ў адпаведнасці са сваімі інтарэсамі і інтарэсамі другіх суб'ектаў; інтэгруе людзей дадзенага грамадства і каардынуе іх дзейнасць; выдае законы і кантралюе іх выкананне.

СІСТЭМА ПАРТЫЙНАЯ - гэта аб'яднанне найбольш вядучых партый, якія імкнуцца да ўдзелу ў ажыццяўленні дзяржаўнай улады. Найбольш развітая тыпалогія С.п. заснавана на колькасным крытэрыі - колькасці партый, якія рэальна змагаюцца за ўладу ці аказваюць на яе ўздзеянне. У С.п. уваходзяць партыі, якія прытрымліваюцца ў сваёй дзейнасці агульных правілаў барацьбы, узаемадзейнічаюць у рамках дадзенай сістэмы. Партыйныя сістэмы ўнутрана разнастайныя. Адны з іх раздроблены на кааліцыі (што пастаянна змяняюцца) розных палітычных партый шматпалярнага плюралізму. У іншых узаемаадносіны палітычных партый больш упарадкаваны на аснове адноснай стабільнасці. Трэція адрозніваюцца доўгім дамінаваннем адной з палітычных партый у такой сістэме. Выдзяляюць аднапартыйную, двухпартыйную і шматпартыйную сістэму.

СПІКЕР (англ. speaker - аратар) - старшыня парламента. Выбіраецца, як правіла, на ўвесь тэрмін работы парламента. Ён кіруе пасяджэннямі; наладжвае дэбаты, якія ўзнікаюць паміж фракцыямі; строга сочыць за выкананнем працэдуры; прадстаўляе парламент у яго кантактах з другімі органамі ўлады, сочыць за адміністратыўным апаратам парламента і за расходаваннем сродкаў, якія адпускаюць на яго ўтрыманне.

СТАБІЛЬНАСЦЬ (НЕСТАБІЛЬНАСЦЬ) ПАЛІТЫЧНАЯ - вызначаецца як здольнасць (нраздольнасць) палітычнай сістэмы здзяйсняць неабходныя змены ў рамках, якія дзейнічаюць у сваіх структурах. Асноўнымі ўмовамі палітычнай стабільнасці з'яўляюцца: рост дабрабыту народа,, дастаткова высокія тэмпы эканамічнага развіцця, адсутнасць рэзка выражанай няроўнасці сацыяльных супольнасцей, эфектыўнасць унутранай і знешняй палітыкі, шырокая сацыяльная падтрымка дзеючага палітычнага рэжыму і інш.

Да фактараў палітычнай нестабільнасці можна аднесці: персаніфікацыю ўлады і складанасць забеспячэння яе пераемнасці; наяўнасць

міжэтнічных і рэлігійных супярэчнасцей; барацьбу за ўладу апазіцыйных сіл вароха настроеных у адносінах да правячага рэжыму, рэзкае падзенне дастатку і жыццёвага ўзроўню значнай часткі насельніцтва і іна. Найбольш нестабільнымі з'яўляюцца пераходныя палітычныя рэжымы, якія здзяйсняюць рэформы палітычнага і сацыяльна-эканамічнага жыцця грамадства.

СУБ'ЕКТ ПАЛІТЫКІ. Суб'ектамі палітыкі з'яўляюцца ўсе тыя, хто непасрэдна ўдзельнічае ў палітычным жыцці грамадства і ў той ці іншай ступені ўплывае на яго. Да суб'ектаў палітыкі адносяцца асноўныя сацыяльныя агульнасці (народ, класы, нацыі, сацыяльныя групы, індывіды), а таксама палітычныя інстытуты (дзяржава, партыі, грамадскія арганізацыі і рухі, парламенцкія фракцыі, царква і інш.).

Пры гэтым першынство належыць сацыяльным супольнасцям, паколькі менавіта яны складаюць неабходную аснову для ўзнікнення палітычных інстытутаў. Апошнія прызваны адказаць запатрабаванням той сацыяльнай супольнасці, якая іх парадзае і падтрымлівае.

СУВЕРЭНІТЭТ (ням.*souveränität*, франц.*souveraineté*- вярхоўная ўлада) вяршэнства дзяржаўнай улады ўнутры краіны і яе незалежнасць. Вяршэнства дзяржавы азначае падпарадкаванне ёй усіх асоб і арганізацый у межах дзяржаўнай тэрыторыі. Дзяржаўная незалежнасць выражаецца ў непадпарадкаванні дадзенай дзяржавы якой-небудзь знешняй уладзе, г.зн. уладзе іншай дзяржавы.

С. - гэта сукупнасць правоў народа, якія дазваляюць яму захоўваць незалежнае існаванне, нацыянальную самабытнасць, забяспечваць спрыяльныя ўмовы развіцця з улікам інтарэсаў іншых народаў і сваёй дзяржавы.

Адрозніваюць тры аспекты С.: суверэнітэт дзяржавы, суверэнітэт нацыянальны і суверэнітэт народны.

СУПОЛЬНАСЦЬ САЦЫЯЛЬНАЯ - вялікія і малыя групы людзей, якія аб'яднаны па пэўных прызнаках і займаюць у грамадстве сваё спецыфічнае месца. Да С.с. адносяцца: народ, нацыя, клас, сацыяльная група, індывід.

СУПОЛЬНАСЦЬ СУСВЕТНАЯ - сукупнасць узаемадзеючых суб'ектаў з нагоды рэгулявання міжнародных зносін. Суб'екты С.с. - суверэнныя дзяржавы, міжнародныя арганізацыі і рухі, транснацыянальныя карпарацыі, асобы.

СЯРЭДНІ КЛАС - асноўны клас (акрамя вышэйшага і ніжэйшага) у

сацыяльнай структуры заходняга грамадства. У ЗША, напрыклад, С.к. складае больш за 50% сямей. Ён адвяргае крайнія пазіцыі і канцэпцыі. С.к. звычайна выступае за палітычную стабільнасць і падтрымлівае палітычны курс, які праводзіцца на дадзеным этапе. С.к. не багаты, але і не бедны, не рэвалюцыйны, але і не кансерватыўны, таму яго падтрымкі дамагаюцца розныя палітычныя сілы. Адсутнасць С.к. і рэзкі падзел грамадства на багатых і бедных звычайна вядзе да канфліктаў і сацыяльных выбухаў.

ТАЛЕРАНТНАСЦЬ ПАЛІТЫЧНАЯ (лац.tolerantia - цярпенне) - пазіцыя тых ці іншых палітычных сіл, якая выражае іх гатоўнасць дапускаць існаванне іншадумства ў сваіх радах. У выпадку, калі гэтыя сілы знаходзяцца ў улады, Т.праяўляецца ў іх палітыцы дапускаць дзейнасць апазіцыі ў канстытуцыйных рамках.

Т.п. - цярпімасць да крытыкі, процілеглай думкі, паводзін. Яна - неабходная ўмова плюралізму, апазіцыі.

У жыцці асобнага чалавека Т.п. - праяўленне гатоўнасці прыслухоўвацца да думкі палітычных працаўнікаў, імкненне іх пераканаць (па адных пытаннях - сродкамі лагічнай аргументацыі; па іншых пытаннях - уменне прызнаць правату іх пазіцый).

ТЫРАНІЯ (грэч.tyranos) - гэты тэрмін ужываецца ў трох сэнсах: 1) у старажытнагрэчаскіх полісах форма дзяржаўнай улады, устаноўленая насільным шляхам і заснаваная на адзінаасобным кіраванні. Узнікла ў УП-У1 ст. да н.э. у працэсе барацьбы паміж радавой знаццю і дэмасам. Рэформы тыранаў былі накіраваны на паляпшэнне становішча дэмасу, развіццё рамяства і гандлю, садзейнічалі фарміраванню класавага грамадства і дзяржавы. 2) Т. або сіньярыя - форма палітычнай будовы шэрагу сярэдневяковых гарадоў-дзяржаў у Паўночнай і Сярэдняй Італіі. 3) У пераносным сэнсе кіраванне, заснаванае на дэспатызме.

ТЭАКРАТЫЯ (грэч.theos - бог, kratos- улада) - форма дзяржаўнага кіравання, пры якой улада сканцэнтравана ў кіраўніка духавенства або кіраўніка царквы. Тэакратычныя дзяржавы вядомы са старажытнасці. Хоць цяпер Т.з'яўляецца гістарычным анахранізмам, "ісламская рэвалюцыя" ў Іране ў канцы 70-х гадоў прадэманстравала пераход фактычнай улады ў дзяржаве да кіраўнікоў шыіцкага духавенства на чале з аяталой Р.Хамейні.

ТЭРАРЫЗМ ПАЛІТЫЧНЫ (лац.terror - страх, насілле) - азначае "настрашыць", "запалохаць". Менавіта гэта акалічнасць і вызначае

тэрор як асобую форму палітычнага насілля, ёй характэрны: жорсткасць, мэтанакіраванасць і ўяўная эфектыўнасць. Экстрэмісцкія палітычныя групоўкі звяртаюцца да тэрарыстычных актаў тады, калі яны ставяць перад сабой задачу знішчыць саперніка, заявіць пра сваё існаванне ці падкрэсліць слабасць свайго палітычнага праціўніка. Т.п. уласцівы рознага роду ультраправым і ультралевым групоўкам, якія дзейнічаюць у розных раёнах свету. Для яго апраўдання выкарыстоўваецца ідэалагічная і палітычная аргументацыя, а таксама нацыяналістычныя ідэі і лозунгі.

Т.п. праяўляецца не толькі ў дзейнасці экстрэмісцкіх груп і арганізацый, але і ў знешняй палітыцы асобных дзяржаў. Гэта дзяржаўны тэрарызм, такі тып палітычнага дзеяння, які з'яўляецца сродкам запалохвання, абапіраецца на пагрозу прымянення ваеннай сілы, або прымянення гэтай сілы без аб'яўлення вайны і насуперак нормам міжнароднага права. Прыкладаў дзяржаўнага тэрарызму ў палітычнай гісторыі больш чым дастаткова (агрэсія Ізраіля супраць Лівана, дзеянні ЗША супраць Грэнады, Панамы, спроба Ірака захапіць Кувейт) Сёння межы тэрарыстычных дзеянняў значна пашырыліся за кошт новых ачагоў, узнікшых у шэрагу рэспублік былога СССР.

УДЗЕЛ ПАЛІТЫЧНЫ - дзеянні, якія прадпрымаюцца прыватнымі грамадзянамі і маюць мэтай уплываць на дзяржаўную палітыку, кіраванне дзяржаўнымі справамі, або на выбар палітычных лідэраў на любым узроўні палітычнай улады. У.п. можа быць арганізаваным або неарганізаваным, эпізадычным або пастаянным, выкарыстоўваючым законныя або незаконныя метады ўлады.

У.п. - гэта неад'емнае свойства палітычнай і любой іншай кіруемай (або самакіруемай) дзейнасці людзей, якое служыць адным з сродкаў выражэння і дасягнення іх інтарэсаў. Удзел набывае якасць палітычнага, калі асоба, група, слой, клас уцягваюцца ў палітыка-уладарныя адносіны, у працэсы прыняцця рашэнняў і кіравання, якія носяць палітычны характар.

УЛАДА ДЗЯРЖАЎНАЯ - гэта форма палітычнай улады, якая мае манапольнае права выдаваць законы, абавязковыя для ўсяго насельніцтва, і якая абапіраецца на спецыяльны апарат прымусу, як адзін з сродкаў выканання законаў і распараджэнняў. У.д. у роўнай меры азначае як пэўную арганізацыю, так і практычную дзейнасць па здзяйсненню мэт і задач гэтай арганізацыі. У.д. - гэта ўлада, якая здзяйсняецца спецыяльным, адасобленым апаратам кіравання

(асобым апаратам людзей, якія займаюцца выключна кіраваннем дзяржаўнымі справамі).

У адрозненне ад палітычнай улады У.д. не абавязкова выкарыстоўвае прымус для дасягнення сваіх мэт. Могуць быць выкарыстаны ідэалагічныя, эканамічныя і іншыя метады ўздзеяння. У той жа час менавіта У.д. валодае манаполіяй на тое, каб прымусіць членаў грамадства для выканання сваіх намераў.

УЛАДА ПАЛІТЫЧНАЯ - здольнасць дадзенага класа, групы, індывіда праводзіць сваю волю, у тым ліку і з дапамогай прымусу, адпаведна сваім патрэбнасцям і інтарэсам. У.п. як адна з важнейшых праяў улады характарызуецца рэальнай здольнасцю дадзенага класа, групы, індывіда праводзіць сваю волю, выражаную ў палітыцы. У.п. ёсць спецыфічная форма грамадскіх адносін паміж вялікімі групамі людзей, рэальная здольнасць пэўнай сацыяльнай групы або індывіда праводзіць сваю палітычную волю.

УНІТАРНАЯ ДЗЯРЖАВА (лац. - адзінства) - дзяржаўнае ўладкаванне, якое характарызуецца цэнтралізаваным кіраўніцтвам адміністратыўна-дзяржаўнымі адзінкамі і адсутнасцю адасобленых (самастойных) дзяржаўных утварэнняў. У.д. - адзінае, непадзельнае, што састаўляе адно цэлае: дзяржаўнае ўтварэнне. У сучасным свеце большасць дзяржаў з'яўляюцца унітарнымі (В'етнам, Іспанія, Кітай, ЮАР і інш.).

УРАД - калегіяльны орган, які праводзіць у жыццё вызначаны палітычны курс. У.складаецца з шэрагу міністраў і ўзначальваецца прэм'ер-міністрам (канцлерам). У.часта называецца кабінетам міністраў. У.з'яўляецца вышэйшай выканаўчай уладай. Ён ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва краінай і кіруе ўсімі ўнутры і знешнепалітычнымі справамі дзяржавы. Да яго паўнамоцтваў адносяцца: распрацоўка праграмы эканамічнага і сацыяльнага развіцця грамадства; падрыхтоўка праекта дзяржаўнага бюджэту, а пасля зацвярджэння парламентам - забеспячэнне яго выканання; кіраўніцтва асобнымі галінамі гаспадаркі, а таксама навукай, культурай, адукацыяй, сацыяльнай сферай; вядзенне міжнародных перамоў і заключэнне дагавораў. У. можа выконваць гэтыя задачы толькі ва ўзаемадзеяннях з парламентам шляхам падачы апошняму законапраектаў. Ён валодае правам заканадаўчай ініцыятывы, г.зн. правам уносіць прапановы аб распрацоўцы тых ці іншых законаў, а таксама дапаўненняў і паправак, а парламент абавязаны абмеркаваць іх і вынесці сваё рашэнне. Ідэаль-

ным з'яўляецца становішча, калі і парламент, і ўрад у роўнай меры прымаюць удзел у распрацоўцы заканадаўства.

ФАШЫЗМ (італ. *fascio* - пучок, звязка, аб'яднанне) - палітычная плынь, якая ўзнікла ў перыяд агульнага крызісу капіталізму, выражала інтарэсы найбольш рэакцыйных і агрэсіўных сіл імперыялістычнай буржуазіі. Фашызм актыўна выкарыстоўвае ў сваіх інтарэсах хістанні ў бок рэакцыі розных слаёў дробнай буржуазіі і дэкласаваных элементаў. Улада фашыстаў - гэта адкрытая тэрарыстычная дыктатура, накіраваная на знішчэнне ўсіх дэмакратычных свабод. Ідэалогія фашызму - расізм, шавінізм, прыгнет, культ правадыра, татальная ўлада дзяржавы, усеагульны кантроль над асобай, мілітарызацыя ўсіх сфер жыцця грамадства, агрэсія.

Разгром гітлераўскай Германіі, фашысцкай Італіі і іх саюзнікаў у другой сусветнай вайне сіламі антыгітлераўскай кааліцыі пры рашаючым удзеле былога СССР вызваліў народы многіх краін ад фашысцкага заняволення і аслабіў сілы фашызму. Сёння ў шэрагу краін (ФРГ, ЗША, Італіі, Расіі, Францыі і інш.) існуюць розныя фашысцкія і неафашысцкія групы і партыі. Прагрэсіўныя сілы свету рашуча выступаюць супраць фашызму ва ўсіх яго праявах.

ФЕДЭРАЦЫЯ (лац. - аб'яднанне, саюз) - форма дзяржаўнага ўладкавання, пры якой некалькі дзяржаўных утварэнняў (штаты, землі, кантоны, правінцыі, саюзныя рэспублікі і г.д.), якія юрыдычна валодаюць вызначанай палітычнай самастойнасцю, складаюць адзіную саюзную дзяржаву. Пры стварэнні Ф. яны сумесна вызначаюць і замацоўваюць у канстытуцыі ўмовы свайго ўваходжання ў яе, размяжоўваюць кампетэнцыю Ф. і тых утварэнняў, якія ў яе ўваходзяць. Адначасова кожны суб'ект Ф. мае як свае ўласнае адміністратыўна-тэрытарыяльнае дзяленне, сваю канстытуцыю, заканадаўчыя, выканаўчыя і судовыя органы, свае грамадзянства, так і федэральныя органы, канстытуцыю і грамадзянства. У склад сучасных Ф. уваходзіць розная колькасць суб'ектаў: ЗША - 50, Канады - 10, ФРГ - 16, Швейцарыі - 23, Мексікі - 31, Індыі - 25, Бельгіі - 3.

ФЕМІНІЗМ (франц. *feminisme*, лац. *femina* - жанчына) - ідэйна-тэарэтычная канцэпцыя руху супраць нераўнапраўнага становішча жанчын у палітыцы, сацыяльна-эканамічнай сферы, культуры і прыватным жыцці. Ф. налічвае двухвекавую гісторыю. Упершыню ідэя Ф. была выказана О дэ Гуж у "Дэкларацыі праваў жанчыны і грамадзянкі" (1792) і ў кнізе Т. фон Гіпеля "Аб паляпшэнні грамадзянскіх праваў жанчын"

(1792). На сучасным этапе Ф.э ідэалогіі жаночага руху паступова пераўтвараецца ў тэорыю альтэрнатыўнага грамадскага развіцця. Дэмакратычныя жаночыя саюзы выступаюць за ўтварэнне грамадства у якім выключаюцца любыя формы панавання, насілля і падаўлення асобы, за перабудову ўсёй сістэмы чалавечых адносін (паміж мужчынай і жанчынай, унутры кожнай з палавых груп, паміж дарослымі і дзецьмі).

ФІЛАСОФІЯ ПАЛІТЫЧНАЯ - адна з навук аб палітыцы, якая вывучае ўзаемаадносіны паміж асобай, грамадствам і дзяржаўнай уладай, выяўляе сэнс палітычных з'яў і распрацоўвае ідэалы і нарматыўныя прынцыпы палітычнай пабудовы, а таксама агульныя крытэрыі палітыкі. У цэнтры прадмета палітычнай філасофіі ляжаць узаемаадносіны чалавека і ўлады. Гэта навука вызначае значэнне такіх важнейшых палітычных катэгорый, як улада, дзяржава, правы чалавека, справядлівасць, салідарнасць, роўнасць, палітычныя паводзіны і г.д. Без Ф.п. палітычныя веды не мелі б асабістага сэнсу, чалавечай значнасці.

Ф.п. служыць агульнай метадалагічнай базай палітычных даследаванняў, вызначае сэнс розных палітычных канцэпцый, выяўляе універсальныя прынцыпы і законы ва ўзаемаадносінах чалавека, грамадства і ўлады, суадносіны ірацыянальнага і рацыянальнага ў палітыцы, яе маральныя крытэрыі і матывацыйную аснову, вызначае прынцыпы і межы дзяржаўнай улады. Філасофскія веды складаюць ядро светапогляду чалавека і палітычнай культуры грамадства.

Ф.п. - гэта навука аб палітычных ідэях і вучэннях, аб гісторыі іх развіцця і эвалюцыі.

ФРАКЦЫЯ (лац. fractio - разломліванне) - арганізаваная група дэпутатаў, якая належыць часцей усяго да адной партыі і праводзіць у парламенце вызначаную палітычную лінію. Зарэгістраваная Ф.мае права на сваё памяшканне ў будынку парламента, на гарантаванае выступленне ў дэбатах свайго прадстаўніка, на прадстаўніцтва ў кіруючых і дапаможных органах парламента. Наяўнасць фракцый ў парламенце - адзін з галоўных паказчыкаў дэмакратыі ў грамадстве і наадварот.

ХАРІЗМА (грэч. harisma міласць, раскош, багаты падарунак). У сучасным грамадстве гэта паняцце азначае асаблівую, выключную таленавітасць чалавека (галоўным чынам рэлігійнага або палітычнага дзеяча); наяўнасць у яго больш ці менш шырокага кола паслядоўнікаў,

якія надзяляюць лідэра якасцямі беспамылковасці і незвычайнасці, асобымі ўласцівасцямі, недасягальнымі другім людзям. Гэтыя якасці разглядаюцца не столькі як набыццё, колькі як міласціва падораныя чалавеку прыродай, богам, лёсам. На іх аснове ў мас ствараецца вера ў выключнасць лідэра, чаканне ад яго дзейнасці пэўных поспехаў.

У паліталогію паняцце Х. увёў нямецкі палітолаг, эканаміст і сацыёлаг М.Вэбер (1864-1920). Ён выкарыстоўваў дадзенне паняцце для характарыстыкі спосабу панавання, якое заснавана на веры падначаленых у цудоўны дар кіраўніка. Па Вэберу, у пераходныя эпохі харызматычны лідэр з'яўляецца важнейшым рухавіком рэвалюцыйнага абнаўлення грамадства, паколькі яго аўтарытэт і ўплыў звязаны з мінулым, а яго эмацыянальная сувязь з масамі робіць такога лідэра здольным мабілізаваць іх на рашэнне задач сацыяльнага абнаўлення. У адносна спакойныя перыяды развіцця грамадства перавага аддаецца рацыянальнаму легальнаму лідэрству, якое ахоўвае гістарычныя традыцыі і здзяйсняе неабходныя рэформы.

ХУНТА (ісп.junta - сход, аб'яднанне) - 1) назва грамадска-палітычных арганізацый, аб'яднанняў, сходаў і т.п. У Іспаніі і большасці краін Лацінскай Амерыкі, дзе размаўляюць на іспанскай мове; 2) распаўсюджаная ў многіх краінах назва груповак (вайсковых або змешанага складу), якія прыйшлі да ўлады неканстытуцыйным шляхам (напрыклад, у выніку дзяржаўнага перавароту). З найбольш рэакцыйнымі з іх звязана ўстанаўленне ў шэрагу дзяржаў ваенных дыктатур.

ШМАТПАРТЫЙНАСЦЬ - гэта функцыянаванне ў той ці іншай краіне некалькіх палітычных партый, якія канкурыруюць паміж сабой і дабіваюцца непасільным шляхам удзелу ў дзяржаўным кіраванні, а ў выпадку калі апошняе не ўдаецца, застаюцца ў апазіцыі, крытыкуюць афіцыйную ўладу, адстойваюць свае погляды канстытуцыйным шляхам.

ЭЛЕКТАРАТ (лац.elector - выбаршчык) - кола асоб, якія маюць права голаса пры выбарах у орган дзяржаўнай улады або міждзяржаўныя арганізацыі (напрыклад, у Еўрапейскі парламент). Рашэнні і настрой Э.вызначаюць склад выбарчых органаў улады, уплываюць на палітыку дзяржавы, пазіцыі палітычных партый.

ЭЛІТА ПАЛІТЫЧНАЯ - група (або сукупнасць груп), якая выдзяляецца з астатняга грамадства ўплывам, прывілеяваным становішчам і прэстыжам, якая непасрэдна і сістэматычна ўдзельнічае ў прыняцці рашэнняў, звязаных с выкарыстаннем дзяржаўнай улады або ўздзеяннем,

на яе. У склад Э.п. уваходзяць асобы, якія займаюць кіруючыя або пануючыя пазіцыі ў грамадстве.

Э.п. вызначаецца па адносінах да сваёй ролі ў палітычным кіраўніцтве грамадствам, аб'ядноўваючы тую частку пануючага класа, якая валодае навыкамі прафесійнай палітычнай дзейнасці і непасрэдна ажыццяўляе дзяржаўнае кіраўніцтва. Звычайна яе падраздзяляюць на вышэйшую, якая прымае важныя для ўсёй дзяржавы рашэнні; сярэднюю, якая выступае барометрам грамадскай думкі і ўключае каля пяці працэнтаў насельніцтва; адміністрацыйную, якую складаюць служачыя - кіраўнікі (бюракратыя).

ЭКСТРЭМІЗМ ПАЛІТЫЧНЫ (лац. *ekstremus* - крайні, надзвычайны) - - прыхільнасць у палітыцы і ідэях да крайніх поглядаў і дзеянняў. Э.п. можа быць уласцівы асобным людзям (палітыкам), а таксама грамадскім групам, арганізацыям, рухам, партыям. Ён можа праяўляцца як ва ўнутрыпалітычнай, так і міжнароднай дзейнасці дзяржавы.

Сацыяльнай базай Э.п. выступаюць шматлікія дробнабуржуазныя і прамежкавыя слаі, якія баяцца пагрозы пралетарыялізацыі і страты свайго параўнальна стабільнага становішча ў грамадстве, а таксама пэўная частка інтэлігенцыі, моладзі, студэнцтва. Ён уласцівы для гарадскіх нізоў, маргінальных слаёў, рэакцыйнай часткі афіцэрскага корпуса.

Э.п. накіраваны на знішчэнне існуючых дзяржаўных структур і ўстанаўленне дыктатуры таталітарнага парадку, культа правадыра, які абвяшчаецца носьбітам вышэйшай мудрасці, з зацвярджэннем сваёй сістэмы палітычных, ідэалагічных або рэлігійных поглядаў. У гэтых мэтах экстрэмісцкія арганізацыі і рухі выкарыстоўваюць запальваючыя лозунгі і заклікі, арганізуюць і правакуюць хваляванні, забастоўкі, грамадзянскае непадпарадкаванне.

ЭТАТЫЗМ (франц. *etat* - дзяржава) - тэрмін, які абазначае актыўнае ўмешванне дзяржавы ў жыццё грамадства. Аднак Э.не трэба блытаць з таталітарызмам. Таталітарызм дапускае крайні Э., аднак не зводзіцца да яго. Э.выражае з аднаго боку асаблівасці, традыцыі развіцця дзяржаўнасці, сфарміраваныя ўяўленні аб сферы дзяржаўнай дзейнасці, з другой - сучасную патрэбнасць у абароне дзяржавай сацыяльных правоў грамадзян, апякунстве культуры, навукі, народнай асветы. Сучаснае грамадства не абыходзіцца без Э.,аднак пры гэтым не выключаюцца прынцыпы грамадства і прававой дзяржавы.

ЭТНАС (грэч. *ethos* - племя, народ) - устойлівая супольнасць

людзей, якая склалася гістарычна на пэўнай тэрыторыі і характарызуецца агульнасцю мовы, побыту, рысаў псіхікі і самасвядомасці, адлюстраванай у адзінай назве і ўяўленнях пра агульнасць паходжання.

Асноўныя гістарычныя формы Э. - племя, народнасць, нацыя, характарызуюцца і пэўнымі сацыяльна-эканамічнымі асаблівасцямі. Галоўныя прыкметы Э. (мова, самасвядомасць, культура, побыт, псіхіка і інш.) змяняюцца з цягам часу не так істотна, як сацыяльна-эканамічныя адносіны, якія адпавядаюць пэўнай гістарычнай ступені развіцця (першабытнасці, рабаўладальніцтву, феадалізму і г.д.).

ЭТЫКА ПАЛІТЫЧНАЯ - спецыфічная дысцыпліна, якая склалася ў русле палітычнай філасофіі. Яна вывучае ўплыў маральных прынцыпаў, норм і маральных уяўленняў людзей на палітыку.

Вучэбнае выданне

Бенеш Анатоль Яугенавіч
Іофе Эмануіл Рыгоравіч
Сіманоускі Сяргей Іванавіч
Сцяпанау Генадзь Іванавіч

# Кароткі тлумачальны слоунік паліталагічных тэрмінау

Карэктар А.В.Сідарэнка

Падпісана у друк 3.03.97. Фармат 60 x 84 1/16
Папера друк № 2. Афсетны друк. Ум.друк.арк. 3,4
Ум.фарб.-адб. 3,5. Ум.-выд.арк. 3,0. Тыраж 100 экз.
Заказ 225. Цана 4500 р.

Ратапрынт БДПУ. 220809. г.Мінск, вул.Савецкая, 18